Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 30 (4830) 31 ліпеня 2015 г.

















## Пункцірам

✔Сёння ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі будуць прадстаўлены 23 работы з залатога фонду сучаснага мастацтва Кітая, якія атрымалі прэміі на XII Усекітайскай выстаўцы мастацкіх работ. Творы жывапісу і графікі сведчаць пра высокі ўзровень майстэрства аўтараў, а таксама дэманструюць асноўныя тэндэнцыі развіцця мастацтва ў Кітаі за мінулыя пяць гадоў.

✔ Міжнародныя Шагалаўскія чытанні, якія адбыліся ў Віцебску, сабралі 14 даследчыкаў з Беларусі, Расіі, Латвіі, Японіі, ЗША. Месцам сустрэчы ўдзельнікаў канферэнцыі стаў Арт-цэнтр Марка Шагала. Прадстаўленыя даклады былі прысвечаны даследаванню эпісталярнай спадчыны мастака, апошнім гадам яго жыцця ў Расіі і знаходжанню ў ЗША, адкрыццю ў Віцебску школы мастацтваў.

✔Заўтра ў 20.00 на плошчы Свабоды адбудзецца канцэрт, прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння выбітнага кампазітара, мецэната, дыпламата і дзеяча беларускай культуры Міхаіла Клеафаса Агінскага. Чакаецца маштабны прамενад з танцамі ў стылі балю XIX стагоддзя.

✔У Празе прайшоў фінал XV Міжнароднага конкурсу прыгажосці Miss & Mister Deaf World & Europe — 2015. У прэстыжным спаборніцтве бралі ўдзел больш як 75 дзяўчат і юнакоў, якія не чуюць, — пераможцаў аналагічных нацыянальных конкурсаў. Самай прыгожай дзяўчынай свету стала ўкраінка Наталля Белан, другое месца і тытул «Віцэ-міс» дастаўся прадстаўніцы Беларусі Анастасіі Вязоўскай.

✔ Чачэрскі раённы гісторыка-этнаграфічны музей адзначыў 25-гадовы юбілей. З 2008 года музей размешчаны ў будынку помніка дойлідства і архітэктуры Беларусі XVIII стагоддзя — гарадской ратушы. Цяпер у фондах музея знаходзіцца больш як 25 тысяч экспанатаў, трэць з іх — рарытэты. Некалькі гадоў таму пры музеі аднавілі «Графскі тэатр», які быў створаны генерал-фельдмаршалам Захарыем Чарнышовым у XVIII стагоддзі.

✔ Унікальная выстаўка дакладных копій рыцарскіх даспехаў і ўзбраення XVI — XVIII стагоддзяў «Чорныя коннікі», створаных рукамі магілёўскага майстра Сяргея Нурматава, адкрылася ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі. Экспазіцыя зацікавіць аматараў ваеннай гісторыі і гісторыі зброі.

✔ Амаль 1,2 тысячы турыстаў, якім прапаноўваюцца адна-, двух- і трохдзённыя маршруты, скарысталіся магчымасцю наведаць Белавежскую пушчу без візы. Паводле генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» Аляксандра Бурага, з пачатку года ў запаветных мясцінах пабывалі 158 тысяч гасцей, у тым ліку 88 тысяч турыстаў з Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Вялікабрытаніі, ЗША ды інш.

ISSN 0024-4686



Фота Марыі Войцік.

*Падарожжа ў сярэднявечча: удзельнікі фестывалю «Наш Грунвальд».*

# Стрэлы ляцяць на Грунвальд

**Пастраляць з сапраўднага арбалета, памахаць мячом, пазаўзець за рыцараў з XIV — XV стагоддзяў, набыць рознакаляровыя бранзалеткі і пацеркі можна было на VII Міжнародным фестывалі сярэднявечнай культуры і музыкі «Наш Грунвальд». Зразумела, гэта далёка не ўсё — але пра іншае па парадку. Традыцыйны фэст, прысвечаны 605-й гадавіне легендарнай Грунвальдскай бітвы, адбыўся 25 — 26 ліпеня на тэрыторыі музейнага комплексу «Дудуткі». У ліку арганізатараў — экстрым-тэатр «Берсерк».**

Дух сярэднявечнага горада захоплівае адразу — толькі пераступі мяжу музейных варот. Гандлёвыя рады з вычварнымі срэбнымі медальёнамі і драўлянымі завушніцамі, зброяй, збанкамі, смешнымі керамічнымі фігуркамі ў народным стылі і іншымі мініяцюрнымі цікавосткамі... Дамы, апранутыя ў доўгія сукенкі, з белымі чапцамі на галовах, паважна і грацыёзна шпацыравалі па вузкіх вулачках. Можна было сустрэць і мужчын у эфектных сурдутах з масіўнымі паясамі, у галаўных уборах з футра і фарсістых высокіх ботах.

Арганізатары фэсту ўжо некалькі гадоў заклікаюць жыхароў Беларусі не забываць легендарныя старонкі сваёй гісторыі. Клубы ваенна-гістарычнай рэканструкцыі з Беларусі, Расіі, Літвы, Украіны, Польшчы сабраліся на адной пляцоўцы, каб стаць удзельнікамі тэатралізаванай рэканструкцыі Грунвальдскай бітвы — адной з самых маштабных на сярэднявечнай карце ваенных падзей. Геаграфія клубаў, як бачна, засталася традыцыйнай, але іх саміх стала больш!

Грандыёзная гістарычная падзея, пра якую на фэсце гаворка ішла як вуснамі харызматычнага вядучага, так і, вядома ж, зброяй на рэканструяваным полі бою, адбылася 15 ліпеня 1410 года. Войскі Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага пад камандаваннем караля Ягайлы і князя Вітаўта, аб'яднаўшыся, знішчылі крыжакоў. Перамога каштавала велізарных страт: каля паловы воінаў назаўжды засталіся на месцы свайго подзвігу... Дзякуючы вялікай бітве баланс сіл у Еўропе карэнным чынам змяніўся: нямецкія рыцары назаўсёды пакінулі землі Літвы і Польшчы. Сёння Грунвальдская бітва з'яўляецца прадметам у тым ліку і нашага нацыянальнага гонару, бо армія ВКЛ складалася ў асноўным з насельнікаў беларускіх земляў.

Інсцэніроўка бітвы — кульмінацыя фэсту — атрымалася вельмі праўдападобнай! Грукат артылерыі пранізваў паветра, стрэлы лёталі па небе нібы вераб'і (іх можна было лавіць на ляту), а рыцары ў бліскучых даспехах, звонячы мячамі, рынуліся ў атаку, звальваючы адзін аднаго з ног. Завяршылі баталію бугурты (масавыя бойкі), узнавіўшы сцэны захопу сцяга, бітву на вузкім мосце і штурм замкавай брамы.

Чытайце на стар. 15 ▶

Памяць

# Тры гады і вечнасць




Фота Вячаслава Ільянковай.

**Мемарыяльная дошка ў памяць пра вянчанне Канстанціна Міцкевіча (Якуба Коласа) і Марыі Каменскай з'явілася на званіцы — уваходнай браме Свята-Варварынскай царквы г. Пінска. Ва ўрачыстасцях бралі ўдзел старшыня Пінскага гарвыканкама Андрэй Мулярчык, архіепіскап Пінскі і Лунінецкі Стэфан, спадчыннікі Якуба Коласа — нявестка Аляўціна Цімафееўна, унучкі Вера Данілаўна і Марыя Міхайлаўна Міцкевічы, прыхаджане царквы, прадстаўнікі грамадскасці.**

З верасня 1904-га па студзень 1906 года Якуб Колас жыў і працаваў настаўнікам у Пінкавічах. Пазней Канстанцін Міхайлавіч напіша: «Я толькі ўступіў тады ў жыццё і сваю работу сельскага настаўніка лічыў самай пачэснай. Перада мною стаяла вялікая і адказная задача: усімі сіламі, усім сэрцам служыць працоўнаму народу». І будучы народны Пясняр не здрадзіў гэтаму запавету, за што ў хуткім часе нават апынуўся ў турме. Але не будзем пра гэта — чытайце трылогію «На ростанях».

У маі 1912 г. Канстанцін Міцкевіч, якога ўжо ведалі ў Беларусі як Якуба Коласа, зноў прыязджае на Піншчыну — яго накіроўваюць у Купяцкую школу. Восенню пераводзяць у Пінск на пасаду выкладчыка старэйшага аддзялення двухкласнага прыхадскога мужчынскага вучылішча № 3.

Адбыліся перамены і ў асабістым жыцці. На педагагічнай нарадзе, дзе Канстанцін Міхайлавіч выступаў перад калегамі, ён пазнаёміўся з маладой настаўніцай чыгуначнай школы Марыяй Каменскай. У хуткім часе яна стала адданай спадарожніцай пісьменніка. Вянчанне зладзілі ў чэрвені 1913 г. у Праабражэнскай царкве, якая ў той час уваходзіла ў склад Пінскага жаночага Варварынскага манастыра. Пра шлюб маладых настаўнікаў сведчыць запіс у метрычнай кнізе храма.

Маладыя кватаравалі на ціхай вуліцы Вадаправоднай (цяпер Івана Чуклая) у доме фельчара станцыі Пінск Палескіх жалезных дарог Арсенія Балевіча. Тут нарадзіўся іх першынец — сын Даніла. У гэтым доме сям'я Міцкевічаў пражыла тры гады. Але пачалася Першая сусветная вайна, да Пінска падступаў фронт. Канстанцін Міцкевіч вымушаны быў перабрацца з сям'ёй у Маскоўскую губерню, дзе ў хуткім часе яго мабілізавалі ў войска.

Больш як 30 гадоў пражылі Канстанцін Міхайлавіч і Марыя Дзмітрыеўна разам, мелі трох сыноў — Данілу, Георгія (Юрку, які загінуў падчас Вялікай Айчыннай вайны), Міхася. Жыццёвую лінію ад шлюбу маладых настаўнікаў Міцкевічаў прадоўжылі шэсць унукаў, сем праўнукаў, а цяпер яшчэ і чатыры прапраўнукі.

Дом, дзе жылі Міцкевічы ў Пінску, няблага захаваўся. Сюды неаднойчы прыязджаў Даніла. Ён завяшчаў, каб каля гэтага дома пасля смерці развеялі частку яго праху. Каля высокіх хвояў (паводле мясцовых легенд, іх пасадзіў Якуб Колас) просьба памерлага і была выканана.

На Піншчыне ўшаноўваюць памяць Песняра. На базе сярэдняй школы ў Пінкавічах у 1990 г. адкрылі музей яго імя. Ёсць у Пінску вуліца Якуба Коласа. Яго імя носіць гарадская дзіцячая бібліятэка. У Музеі Беларускага Палесся захоўваюцца дзясяткі экспанатаў, звязаных з жыццём і творчасцю Якуба Класа. На доме, у якім ён кватараваў з жонкай, усталявана мемарыяльная дошка.

**Валерый ГРЫШКАВЕЦ**

Сябры «ЛіМа»

# Лёс «звяздоўца»

**Аркадзя Апанасавіча Тоўсціка, які доўгі час быў галоўным рэдактарам газеты «Звязда», добра памятаюць не толькі ў калектыве выдання. Выдатны журналіст, грамадскі дзеяч, партыйны работнік, ён сябраваў з многімі дзеячамі культуры, беларускімі пісьменнікамі. Пра гэта — і многія старонкі кнігі яго дачкі Ірыны Тоўсцік: «Наканавана лёсам: Тоўсцік Аркадзь Апанасавіч: журналіст, галоўны рэдактар, грамадскі дзеяч, абаронца Айчыны».**

«Жыў «Звяздой» — так назваў прадмову да новай кнігі Уладзімір Браніслававіч Наркевіч, які рэдагаваў партыйную газету, а пасля парламенцкае і ўрадавае выданне ў 1989 — 2011 гадах. І вось што, у прыватнасці, піша Уладзімір Браніслававіч пра свайго папярэдніка: «Аб тым, што наш некалі галоўны рэдактар даўным даўно ўзнагароджаны шанаваным у народзе салдацкім медалём «За адвагу» (даваўся гэты медаль толькі за асабістую мужнасць), мы ў рэдакцыі даведаліся толькі пасля яго смерці. Ён быў сціплым чалавекам, наш Аркадзь Апанасавіч...».

На старонках шчырай, спавядальнай кнігі Ірыны Тоўсцік чытач сустрэнецца з Фёдарам Янкоўскім, Іванам Шамякіным, Іванам Чыгрынавым, вядомымі кіраўнікамі беларускіх масмедыя А. Зініным, А. Коласам. Цікава даведацца, што ідэю для рамана «Вазьму твой боль» Івану Шамякіну падказаў якраз Аркадзь Апанасавіч Тоўсцік.

«...У хатняй бібліятэцы бацька адвёў асобнае месца кнігам з аўтографамі, якімі вельмі ганарыўся», — піша Ірына Тоўсцік. І далей: «Аркадзь Апанасавіч заўсёды шмат чытаў літаратуры. Браў з бібліятэкі «Звязды» часопісы «Полымя», «Маладосць», «Нёман», а таксама «Наш современник», «Новый мир», «Нева», «Москва», «Иностранная литература», «Дружба народов», «Огонёк» і інш. У той час уся краіна імкнулася да літаратурных навінак, і гэтыя часопісы былі вельмі папулярныя сярод інтэлігенцыі. У тым ліку беларускай. Пазней некаторыя з іх мы выпісвалі на працягу многіх гадоў.

Наогул Аркадзь Апанасавіч вельмі шанаваў літаратуру як сапраўдны майстар слова. Бацька застаў беларускіх класікаў, са многімі быў знаёмы асабіста, імкнуўся, каб чытачы «Звязды» ведалі творчасць пісьменнікаў, паэтаў і публіцыстаў. У газеце публікавалі ўрыўкі з апошніх твораў, а таксама публіцыстычныя артыкулы. Назавём імёны тых прадстаўнікоў творчай эліты Беларусі, пра якіх піша сам бацька ва ўспамінах, і якія, на яго погляд, найбольш яскрава выступілі са старонак «Звязды». Гэта Алесь Адамовіч, Пятрусь Броўка, Янка Брыль, Вольга Іпатава, Генрых Далідовіч, Павел Кавалёў, Аляксандр Капусцін, Максім Лужанін, Міхась Парахневіч, Пятро Прыходзька, Іван Шамякін».

Кніга пра «звяздоўскага» рэдактара выйшла ў мінскім выдавецтве «Права і эканоміка». Некалькі слоў пра аўтара. Ірына Тоўсцік — кандыдат філалагічных навук. Між іншым, абараніла дысертацыю ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце імя М. В. Ламаносава. Каля 10 гадоў працавала ў БДУ на факультэце журналістыкі. Аўтар звыш 90 навуковых прац, 3 манаграфій. Кола навуковых зацікаўленняў: праблемы міжнародных медыярынкаў ва ўмовах глабалізацыі. Нельга не сказаць і пра тое, што якраз у многім дзякуючы такім удзячным дзецям і захоўваецца памяць пра бацькоў, чый след істотны ў галіне беларускай культуры. На памяці — кнігі дачок і сыноў пра пісьменнікаў Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Антона Алешку ды іншых, зборнікі ўспамінаў, укладзеныя Галінай Скрыган, Міхасём Міцкевічам…

**Павел АЛЬСОВЫ**

Дайджэст

■ Сенсацыя ў свеце дзіцячай літаратуры: праз 20 гадоў пасля смерці Доктара Сьюза выйшла яго кніга «Якую жывёлу я б выбраў». Удава пісьменніка Одры патлумачыла, чаму кніга чакала свайго «нараджэння» так доўга. Справа ў тым, што пісьменнік працаваў паралельна над некалькімі праектамі і мог проста забыцца на яшчэ адзін рукапіс. Творчасць Доктара Сьюза —неад'емная частка культуры англамоўных сем'яў. З яго кніг дзеці пачыналі знаёмства са светам літаратуры. Сярод шэдэўраў пісьменніка лічацца «Месцы, у якія ты выправішся», «Loракс», «Зялёныя яйкі і кумпяк», «Як Грынч скраў Раство» і «Кот у капелюшы». Ужо прададзена больш як паўмільёна экзэмпляраў стара-новай кнігі, а лік замоў ідзе яшчэ на мільён.

■ Выдавецтва «Эксмо» абвясціла галасаванне на выбар лепшай кнігі пра Расію. Адабраныя 25 твораў, сярод якіх — «Вайна і мір» Льва Талстога, «Браты Карамазавы» Фёдара Дастаеўскага, «Доктар Жывага» Барыса Пастарнака, «Гора ад розуму» Аляксандра Грыбаедава. Прагаласаваць можна на старонцы выдавецтва *http://eksmo.ru/vote/*. Вынікі конкурсу будуць падведзены 4 лістапада ў Дзень народнага адзінства.

■ У аэрапорце Шарамецьева з'явілася «SVOя библиотека», якая дазваляе задарма спампаваць упадабаную кнігу. Над стварэннем праекта працавала выдавецкая група «Эксмо-АСТ» і кампанія «ЛитРес». Працуе бібліятэка і на бартах самалётаў. Адкрыццё незвычайнай кніжніцы адбылося ў тэрмінале D з удзелам пісьменніка Дзмітрыя Глухоўскага, вядомага серыяй фантастычных кніг «Метро». Бясплатны доступ да кніг адкрыты да канца 2015 года.

■ Сумесны праект распачалі пекінскі тэатр Куньцюй і якуцкі Аланхо. У лістападзе яны плануюць паказ тэатральнай пастаноўкі, заснаванай на якуцкім эпасе аланхо, які займае галоўнае месца ў якуцкім фальклоры, і часта называецца «якуцкай адысеяй». Яшчэ ў 2005 годзе ЮНЕСКА назвала гэты вусны жанр народнай творчасці шэдэўрам сусветнай нематэрыяльнай спадчыны. Прэм'ера адбудзецца ў Пекіне.

■ Творчы віцебскі дуэт «StreetSkills» падарыў Віцебску новае графіці — партрэт Марка Шагала. Убачыць яго можна на трансфарматарнай будцы ў адным з двароў па вуліцы Суворава. Раней мастакі Глеб Каштанаў і Ян Кузьмін уваходзілі ў склад групы графіцістаў «HoodGraff», якая зрабіла шэраг партрэтаў знакамітых асоб у Віцебску. Партрэт Марка Шагала — іх першая самастойная праца, зробленая выключна іх высілкамі і за ўласныя сродкі.

■ Старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша адгукнуўся на звесткі пра сенсацыйную знаходку запісу пра кнігу «Апостал», якая нібыта была выдадзеная ў 1504 годзе ў Магілёве. Ён зазначыў, што сам старадрук нідзе і ніколі не быў зафіксаваны. Таксама звярнуў увагу на тое, што «ў Магілёве пачатку XVI стагоддзя, на жаль, не існавала адпаведных умоў для заснавання друкарні». Значна і тое, што «ні адна з беларускіх летапісных крыніц не захавала звестак пра такі важны факт, як з'яўленне ў Магілёве свайго кнігадрукавання», а «дакладнасць звестак у рукапісных рэестрах накшталт знойдзенага ўмоўная». У спісе абвяржэнняў Алеся Сушы маецца яшчэ тры пункты, з якімі варта пазнаёміцца падрабязна. У цэлым жа даследчык не бачыць падстаў казаць пра існаванне магілёўскага выдання 1504 года.

## Арт-карагод

Другая частка аўтарскага фотапраекта Валерыя Вядрэнкі «Свято Вязынкі. Графіка» адкрылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Фотамастак працуе ў напрамку піктарыялізму, які панаваў у фатаграфічным мастацтве канца XIX — пачатку XX ст. і набліжаў фотаздымак да жывапісу і графікі.

Валерый Вядрэнка не імкнецца рэканструяваць стыль. На выстаўцы прадстаўлена сучасная лічбавая аранжыроўка традыцыйнага пейзажа: манахромны каларыт і мяккі графічны малюнак ствараюць паэтычную атмасферу любага сэрцу мастака куточка прыроды і надаюць сентыментальна-настальгічны тон, уласцівы і работам першай часткі праекта.

Экспазіцыя з 26 работ, аб'яднаных адной тэмай і тэхнікай выканання, прапануе гледачу яшчэ раз зазірнуць у непаўторны купалаўскі куток, цудоўную Вязынку. Там пануе асаблівая атмасфера — дух мінулага. У Вязынцы кожны знаходзіць для сябе штосьці адметнае, бо ў кожнага свой Купала. Валерый Вядрэнка змог убачыць і паказаць незвычайны таямнічы свет гэтай дзівоснай прыроднай прасторы.

Падчас выстаўкі Валерый Вядрэнка зрабіў анонс сваёй наступнай экспазіцыі: «Гэта будуць дубы. Вязынскія дубы. Там свае сюжэты, сваё жыццё. Усё ўжо амаль зроблена, засталося толькі прадставіць».

**Анастасія ГРУК**

Выстаўка Сяргея Пілата «Лініі ілюзіі» адкрылася ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Сяргей вучыўся ў мастацкай школе горада Салігорска, Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава. Часта прымаў удзел у студэнцкіх выстаўках, а ў вольны ад вучобы час наведваў музеі, выстаўкі сучаснага мастацтва, любіў бываць у гістарычна значных месцах краіны — старадаўніх замках, цэрквах, касцёлах. У 1980 — 1990-я гады ўдзельнічаў у калектыўных выстаўках беларускага авангарду, у тым ліку ў Францыі, абстрактнага экспрэсіянізму — у Амерыцы.

Выстаўку «Лініі ілюзіі» арганізаваў сябра мастака Міхаіл Мірошнікаў. Сам аўтар рэдка бывае ў Мінску, імкнецца жыць падалей ад мітусні. Паводле Сяргея Пілата, сэнс экспазіцыі ў тым, каб на палотнах глядач убачыў і адчуў усю глыбіню пачуццяў і перажыванняў творцы. А яшчэ — аб'яднаць добрыя, смелыя і разумныя погляды людзей на свет, стварыць атмасферу паразумення, запрасіць да дыялогу.

**Святлана КУРГАНАВА**

Мастацтва — гэта не толькі здольнасць пераносіць рэчаіснасць на палатно, гэта яшчэ і ўменне ствараць такія карціны, дзе ў кожным кадры — цэлае жыццё. Гэта і ёсць ключавая ідэя выстаўкі фота- і відэаінсталяцыі Васілісы Палянінай-Календы «Вада як сама», што адкрылася ў сталічным Цэнтры сучасных мастацтваў.

Васіліса не толькі галоўны рэдактар часопіса «Макулатура», але і арыгінальная мастачка, якая раскрываецца ў розных кірунках — ад ілюстрацый, графікі і фота да відэа- і фотаінсталяцый. «Вада як сама» — не проста фотавыстаўка. У работах В. Палянінай-Календы вобраз вады — пачатку жыцця — раскрываецца ў трох колерах: белым, чырвоным і чорным.

— Першапачаткова была праведзена сяброўская фотасесія, дзеля ўласнага задавальнення, — прызналася Васіліса. — А праз паўгода, калі я ўзялася пераглядаць свае здымкі, нарадзілася канкрэтная асацыяцыя. І невыпадкова: усё адбываецца з намі ў пэўны час, і мы можам бачыць тыя ці іншыя знакі, толькі калі падрыхтаваны да гэтага.

У праекце вада паказана ў камерных прасторах, кожная з якіх запаўняецца вытокавымі каларыстычнымі сімваламі і раскрываецца з дапамогай трыпалярных персанажаў — Ундзін. Белая прастора — чысціня, малако маці, камфорт і ўнутраны спакой. Чырвоная — энергія жыцця, унутраная дынаміка ў знешнім спакоі. Чорная — натуральнасць жыццёвага фіналу.

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

У прасторы ЦЭХ (Кастрычніцкая, 16) праходзіць выстаўка «Ружовы трохкутнік» Дэніэла Эйзенхуда — мастака са Швейцарыі, які адлюстроўвае ў сваіх працах праблемы сучаснага грамадства, сацыяльных норм і супярэчнасцей. Яго працы былі выстаўлены ў музеях і галерэях Цюрыха, Жэневы і Лондана, знаходзяцца ў прыватных калекцыях па ўсёй Еўропе.

Выстава «Ружовы трохкутнік» прысвечана халакосту і дыскрымінацыі ў часы нацысцкай Германіі. «Я габрэй, і тэма халакоста цесна звязаная з усім маім жыццём, — кажа Дэніэл. — Я, мая сям'я, дзяржава, у якой я сталеў, — мы вывучаем падзеі таго часу і вельмі часта размаўляем на гэтыя тэмы». Назва арт-праекта сімвалічная: трохкутнікамі розных колераў у той перыяд пазначаліся розныя групы насельніцтва.

Важная частка выстаўкі — падрыхтоўка некалькіх групавых і індывідуальных карцін. Дэніэл стварыў іх тут, у Мінску, і працаваў з беларускімі мадэлямі — прафесіяналамі і аматарамі. Творца не прызнае карціны, якія зроблены па фатаграфіях мадэляў, і працуе толькі з жывымі людзьмі. У мастака ўжо ёсць прапановы ад швейцарскага і ізраільскага музеяў, ад расійскіх галерэй. Цікава і тое, што Дэніэл працуе з вуглём. Ведама, вугаль — самы просты і даступны матэрыял. Але ёсць і іншыя прычыны. «Замалёўкі Мікеланджэла зроблены вуглём. Вязні ГУЛАГа і Асвенцыма пісалі вуглём. Вуглём зробленыя малюнкі ў пячорах Іспаніі трыццаць пяць тысяч гадоў таму, — распавядае Дэніэл. — Для мяне праца з вуглём — гэта заўсёды элемент духоўнай трансфармацыі».

**Дар'я СЕНЬКОВА**

# Светлы ўспамін

**22 ліпеня 2015 г. пасля цяжкай працяглай хваробы на 91-м годзе пайшла з жыцця Эльвіра Пятроўна Герасімовіч — вядомы тэатральны і грамадскі дзеяч, кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі — адна з тых, хто быў сярод студэнтаў і выпускнікоў першага набору ў Беларускі тэатральны інстытут.**



Нарадзілася Эльвіра Пятроўна Герасімовіч 5 чэрвеня 1925 года ў г. Мінску ў сям'і служачых. У гады Вялікай Айчыннай вайны знаходзілася ў эвакуацыі ў Чалябінску. Там пачала працоўную дзейнасць на заводзе і адначасова закончыла дзесяцігодку. У 1944 годзе разам з маці вярнулася на радзіму ў Мінск і паступіла на факультэт замежных моў у Мінскі педінстытут. У 1945 г. перавялася на акцёрскае аддзяленне ў толькі што адкрыты Беларускі тэатральны інстытут, з якім і звязала сваё далейшае творчае і педагагічнае жыццё.

Лёсам кожнага чалавека жыццё распараджаецца па сваіх законах. Займаючыся на курсе Еўсцігнея Афінагенавіча Міровіча, Эльвіра Пятроўна Герасімовіч разам са сваімі сакурснікамі рыхтавала сябе да акцёрскай дзейнасці, а жыццё вывела на іншы шлях. Былі на гэтым шляху і работа ў якасці першага сакратара Ленінскага райкама камсамола г. Мінска, і аспірантура ў Маскве, і аддзел культуры ЦК КПБ. Актыўная грамадская і навуковая дзейнасць надалі прафесійнага вопыту і сталасці, вывелі Эльвіру Пятроўну Герасімовіч у шэраг вядучых дзеячаў культуры рэспублікі. Аднак ніколі — з 1945 г. і да апошняга дня — Эльвіра Пятроўна Герасімовіч не парывала сувязі з альма-матар як выкладчык і выхавацель. І, пэўна, таму ў 1968 г. ёй было наканавана стаць рэктарам тады ўжо Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута і кіраваць ім на працягу 16 гадоў.

Наўрад ці ўсе рэктарскія справы паддаюцца ўліку і аналізу: безліч арганізацыйных дробязей, паўсядзённых клопатаў, асабістае ўздзеянне, педагагічны ўплыў... Аднак буйныя падзеі застаюцца не толькі ў памяці паплечнікаў, але і фарміруюць будучыню. Так падчас рэктарства Э. П. Герасімовіч у інстытуце значна пашырыліся межы мастацкай адукацыі. Былі адкрытыя мастацка-прамысловы факультэт і некалькі новых кафедраў — малюнка, манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, выставак і рэкламы; распачата падрыхтоўка рэжысёраў тэлебачання; адбылася рэканструкцыя галоўнага корпуса і пампяшкання Студэнцкага тэатра. А колькі таленавітых выпускнікоў інстытута пры ёй распачалі і плённа працягваюць цяпер сваю педагагічную працу ў акадэміі!

У 1984 г. перад заслужаным адпачынкам яна аддала перавагу творча-педагагічнай дзейнасці. І больш як 30 гадоў прафесар Эльвіра Пятроўна Герасімовіч працягвала плённа працаваць на кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў нашай акадэміі.

Як дзяржаўны дзеяч у галіне культуры і мастацтва Э. П. Герасімовіч больш як 20 гадоў з'яўлялася членам Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР, з 1959 па 1986 гг. — членам Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА, шмат гадоў — членам Усесаюзнага Савета па каардынацыі навукова-даследчых работ у галіне мастацтвазнаўства і праблем кіравання развіццём мастацкай культуры пры Міністэрстве культуры СССР. Яе пяру належыць больш як 200 публікацый па розных пытаннях культуры і мастацтва. Яна адзін з суаўтараў 3-томнай «Гісторыі беларускага тэатра», шэрагу інсцэніровак для радыё і тэлебачання твораў майстроў беларускай літаратуры — І. Мележа, І. Шамякіна, С. Грахоўскага, М. Лынькова, В. Быкава, Л. Арабей і інш. Трохсерыйны тэлеспектакль па яе сцэнарыі (у суаўтарстве) паводле рамана І. Мележа «Людзі на балоце» быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР.

За плённую творчую, педагагічную, выхаваўчую і навуковую дзейнасць Э. П. Герасімовіч узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны», медалямі «За доблесную працу ў гады Вялікай Айчыннай вайны 1941 — 1945 гг.», «За працоўную доблесць», Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, ёй нададзена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР».

Магчыма, можа падацца, што лёс быў надта спагадлівы да гэтай жанчыны, падараваўшы прывабную знешнасць, талент, арганізатарскія здольнасці і столькі важкіх тытулаў. Але мала каму вядома, што яна ўступала ў жыццё дачкой «ворага народа», расстралянага ў 1937-м. І можна толькі ўявіць, колькі перашкод давялося ёй пераадолець на шляху да ведаў, прызнання, павагі... І перш за ўсё захаваць у сабе чалавека. У адным з інтэрв'ю Э. П. Герасімовіч, разважаючы пра сапраўдныя маральныя каштоўнасці, прыгадала выпадак са свайго жыцця: «Як дачку «ворага народа» мяне доўга не хацелі прымаць у камсамол, і гэтая несправядлівасць здавалася больш жорсткай, чым сапраўдныя нястачы, якіх нямала давялося перажыць нам з мамай. У час вайны я згубіла яе, трапіла ў дзіцячы дом у далёкім уральскім горадзе. І тут знайшоўся чалавек, які напісаў рэкамендацыю, паручыўшыся за мяне, хоць і ведаў, з чым гэта звязана. Учынак нашага піянерважатага дапамог мне захаваць веру ў справядлівасць, у тое, што чалавек заўсёды можа застацца чалавекам».

Светлая памяць пра Эльвіру Пятроўну Герасімовіч назаўсёды застанецца ў сэрцах яе калег і шматлікіх вучняў.

**Ад імя калектыву Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў: М. Р. Баразна, Р. Б. Смольскі, А. С. Бохан, С. П. Вінакурава, В. С. Іваноўскі, М. Л. Карпянкова, У. А. Мішчанчук, Л. А. Манакова, У. В. Катавіцкі, В. П. Паўлюць, І. І. Кабанава (і іншыя)**

# Са школы на кірмаш

Лета ў горадзе можа быць для дзяцей зусім не сумным — пры ўмове, што бацькі маюць вольны час, каб разам наведваць цікавыя мясціны. Патрапіць на забаўляльную праграму можна не толькі ў парку адпачынку, але і ў музеі!

27 і 28 ліпеня навуковыя супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Вольга Шаўчэнка і Настасся Карнадская ладзілі для маленькіх наведвальнікаў гулянне ў народным стылі. Міні-фэсты адбываліся ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Дзеці даведаліся пра старажытны кірмаш, пазнаёміліся з беларускімі народнымі музычнымі інструментамі (цымбаламі, бубнамі, трашчоткамі, бразготкамі, лыжкамі), на некалькі хвілін сталі ўдзельнікамі сапраўднага народнага ансамбля.



Фота Ганны Бізунковай.

Вядучыя зладзілі з дзецьмі гульню «Садзі лянок», вясёлую эстафету з паменшанымі драўлянымі мадэлямі галоўных для селяніна прылад працы — касы і сярпа. На развітанне наведвальнікі навучыліся танчыць сярэднявечны танец «Маразуля», а яшчэ атрымалі ў падарунак паветраныя шарыкі — каб вярнуцца са старажытнасці ў XXI стагоддзе.

Фэст спадабаўся, а гульні выклі-калі захапленне і нават ладзіліся двойчы. Шкада, што прывесці дзяцей у музей атрымалася толькі ў школьных настаўнікаў. Гарадскім бацькам не хапіла альбо імпэту, альбо інфармаванасці.

**Янка НАТАВЕЦ**

Зміцер ЗАХАРЭВІЧ



## Раніца 15 ліпеня 1410 г.

*Маці хвалёна, Марыя,*
*Зычы нам і адпусці нам…*
«Багародзіца»[1]

*Гэты дзень празвініць над стагоддзямі*
*Сталлю злой скрыжаваных мячэй*
*І, у хронік раздзелы сыходзячы,*
*У запале ён сонца ссячэ.*

*Што пакуль зырка зззяе над гуфамі[2],*
*Твары нашыя лашчыць, нібы*
*Заваражанае харугвамі*
*Усяе Вялікай Літвы.*

*Мы ў шыхце і чакаем, прагорклыя,*
*На пажарышчах местаў сваіх,*
*Каб ў вочы магістру і комтурам[3]*
*Без забралаў зірнуць у баі.*



Фота Марыі Войцік.

*Сёння ім не мінуць непазбежнага —*
*Калі сурмы[4] ў блакіт загудуць,*
*Багародзіца з Срэбным Вершнікам[5],*
*Блаславўляючы, нас павядуць.*

*Для каго неба славай напоўніцца*
*Ці крывёй набрыняе зямля?*
*«Зычы нам!..» І баярская[6] конніца*
*У атаку лавай[7] пайшла…*

[1] «Багародзіца» — гімн Вялікага Княства Літоўскага ў XIV — XVIII стст. Спяваўся пры каранацыях, прыдворных цырымоніях ды іншых урачыстасцях, войскам перад бітвамі.

[2] Гуф — самкнуты баявы шыхт харугвы.

[3] Магістр (вялікі магістр) — вышэйшая выканаўчая пасада ў Тэўтонскім ордэне. Комтур, камандор — у рыцарскіх ордэнах кіраўнік комтурства (найменшай адміністрацыйнай адзінкі, складзенай з аднаго ці некалькіх замкаў і прылеглых тэрыторый).

[4] Сурма — старадаўні драўляны духавы музычны інструмент. Выкарыстоўваўся як ваеннымі музыкамі, так і цывільным насельніцтвам.

[5] На вялікай дзяржаўнай харугве Вялікага Княства Літоўскага з аднаго боку была выява «Пагоні», а з другога — выява Багародзіцы.

[6] Баяры — ваенна-службовы пласт у Вялікім Княстве Літоўскім (пазней гэты тэрмін выціснуты паняццем «шляхта»).

[7] Лава (у ваеннай справе) — баявы парадак і спосаб тактычных дзеянняў конніцы, калі падчас атакі галоўная маса ідзе разамкнёна з інтэрваламі ў колькі крокаў, імкнучыся ахапіць пазіцыю праціўніка.

Галіна ЗАГУРСКАЯ



***

*Вось і для прароцтваў ноч наспела,*
*Я сягоння ў цёмнай ночы госць*
*І перабіраю з ёй нясмела,*
*Што было, што будзе і што ёсць.*

*Спадзяюся, што мне ноч падкажа,*
*Што рабіць, мой зразумеўшы боль,*
*І на вагах зоркавых узважыць*
*Мне жыццём прызначаную роль.*

*А яшчэ падкажа мне, што будзе,*
*Што яшчэ сустрэнецца ў жыцці,*
*Каб далей мне не брысці ў аблудзе,*
*А дарогай пэўнаю ісці.*

*…Нешта сапраўды я зразумела,*
*Да чагось не здолела дайсці,*
*Хоць і для прароцтваў ноч наспела,*
*Надта ўсё складана — у жыцці.*

## Гімн вадзе

*Ну што найлепей ад вады?*
*Пранікне ў шчылінку любую,*
*Залье ў паводку гарады,*
*Ля мора дзюны намалюе.*

*А без яе — жыццё на скон:*
*Адна пясчаная пустыня,*
*Дзе саксаул расце, дык ён*
*Ваду выцягвае з глыбіняў.*

*І зрок наш цешыцца заўжды*
*Люстэркам ціхага азерца,*
*А спеў крынічнае вады*
*Нам цешыць слых, хвалюе сэрца.*

*Вада, вада! Цябе мы п'ём*
*Так прагна, калі дзень гарачы.*
*З табою гутарку вядзём.*
*Калі нам дрэнна, то паплачам.*

*І слёзы нашыя — вада,*
*Ды нездарма яны з гарчынкай:*
*Сыходзіць з імі злыбяда*
*Такой гаючаю хвілінкай.*

*Вада, сягоння гімн табе*
*Складаю, стаўшы на калені.*
*Ты мне — спатоляю ў журбе.*
*Ты — памяць многіх пакаленняў.*

## Нібы спарышы

*О, як нам далёка да вечнага Неба:*
*У справах сваіх мы нібы мурашы,*
*Спяшаем набыць, што нам трэба*
*й не трэба,*
*І думаць забыўшы аб вечнай душы.*

*І Неба з дакорам на нас пазірае,*
*Калі мы ў згрызотах марнуем свой дзень,*
*Калі на знявагу — сваю адмяраем,*
*І ходзіць за намі яна, нібы цень.*

*А зло сваёй злосцю ніхто не адолеў,*
*Хаця чысціню і парушыў душы.*
*Як лёгка пускаць цмока гневу на волю!*
*А зло і дабро ў нас — нібы спарышы.*

Юлія АЛЕЙЧАНКА



***

*Я павінна прысыпаць*
*Шэрым друзам будзённасці*
*Агмень майго палкага сэрца,*
*Бо аднойчы ён шугане*
*І спаліць мяне дашчэнту.*

*Я павінна змяшаць*
*Галасы маёй пеннай вясны*
*З гукамі рэпрадуктараў,*
*Бо іх можа пачуць*
*Няўмольны натоўп.*

*Я павінна забыцца*
*На ласкавыя вусны і жаданыя рукі,*
*Бо аднойчы яны*
*Задушаць мяне ўва сне.*

*Я павінна жыць,*
*Быццам нічога і не адбылося.*
*Бо рака жыцця*
*Выкідае на бераг*
*Слабых і непасталелых.*

## Даруй!

*Сонца ў далонях. Вяслуй*
*Шляхам гарэзнага промня.*
*Мама, свавольствы даруй!*
*Дзе заблукала — не помню.*

*Дзе я ў чароўных лясах*
*Светлыя мары згубіла.*
*Як у купальскіх слязах*
*Водар юначы тапіла…*

*Сонца, святла ахвяруй*
*У час ліхалецця, навалы.*
*Божа, грахі мне даруй!*
*Мама заўжды даравала…*

***

*Звычайная пара. З дзіцём.*
*А яно так бачыць жыццё,*
*Быццам з неба яшчэ глядзіць.*
*Я баюся яму зманіць:*
*Даць цукерку не той рукой,*
*Усміхнуцца няшчыра ў адказ.*
*Мізарнею, губляю спакой*
*Прад анёламі кожны раз…*

***

*У келіху тваім плыве туман,*
*У келіху маім плыве пакута…*
*Ты будзеш гаспадар, ласкавы пан,*
*Ты будзеш раб, да ног маіх прыкуты.*

*Я буду сёння ветрам і вадой,*
*Я буду бліскавіцай напрадвесні,*
*Самотным шчасцем і ліхой бядой,*
*Апошнім гукам лебядзінай песні.*

*З пяшчотных рук народзіцца агмень*
*Нябесных зор, надзеі-спадзявання…*
*На белы ложак зноў кладзецца цень*
*Трывог, палону, смагі… і яднання.*

***

*Кожны ранак*
*У бурштынавым моры гарбаты*
*Ты бачыш*
*Свае філасофскія параходы.*

*Кожны поўдзень*
*Стамлёнымі вачыма*
*Ты збіраеш*
*Калекцыю літар-казюрак.*

*Кожны вечар*
*Пяшчотна кранаеш*
*Мае валасы.*
*Але думкі твае*
*Вандруюць у згубленай*
*Гіпербарэі.*

*А я дрыжу кожны раз*
*Ад твайго дотыку*
*І баюся стаць кнігай,*
*Дзе ты нічога не зможаш*
*Прачытаць.*

Валеры ПАЗНЯКЕВІЧ



## Бабулі Надзеі

*Бабуля мая Надзея*
*Прала кудзелю ў нядзелю.*
*Пальцамі нітку звівала,*
*Песні пра долю спявала.*

*Доля, сялянская доля —*
*Праца ля хаты і ў полі.*
*Неба ад працы той стогне —*
*Рукі ж не ведаюць стомы.*
*Дзівіцца сонца з бабулі —*
*Колькі ж ёй трэба цыбулі?*
*Вецер у вочы дзьме коса —*
*Колькі патрэбна ёй проса?*

*Ціха шапочуць ёй свечкі:*
*Досыць стаяць каля печкі!*
*І толькі старая кароўка*
*Вітае бабулю з даёнкай,*
*Бо ведае, што без надою*
*Не будзе ў бабулі спакою:*
*Заплачуць галодныя ўнукі —*
*А як жа пабраць іх на рукі,*

*Калі тыя рукі ад працы*
*Не могуць за ноч распрастацца.*
*Доля, сялянская доля —*
*Праца ля хаты і ў полі.*

## Светлай памяці майго таты

*Тата мой — самы лепшы на свеце:*
*Ён настаўнік, рыбак і паэт,*
*Хто мой талент адзінчы прыкмеціў*
*І ў жыццё праязны даў білет.*
*Гэта ён навучыў мяне змалку*
*Мову продкаў сваіх шанаваць.*
*Усміхацца грыбам летнім ранкам*
*І народныя песні спяваць.*
*Без яго ахалодала хата*
*І не косіцца ў лузе трава.*
*Нават свята без таты — не свята.*
*Без яго мая мама ўдава.*
*За яго я сягоння ў адказе,*
*За Айчыну, за родны куток...*
*Тата мой у прыдуманым сказе*
*Мне шапоча: «Трымайся, сынок!»*
*Я мацуюся... Тата, я — дужы! —*
*Перасільваю хіжы той боль.*
*І клянуся быць сынам і мужам*
*Самым лепшым, як ты, тата мой.*

Паліна
ЛУК'ЯНОВІЧ



# Драпінкі

Мякка пагойдваючыся ў аўтобусным крэсле, я, здаецца, драмала. А можа, трызніла. Хіліла ў сон, млявасць дурманіла галаву. Няёмка скурчыўшыся, я няйначай завязалася ў вузел: не адчувала ні рук ні ног. Галава схілілася набок, на слаба надзьмутую дарожную падушку, лоб прыемна халадзіла шыба. Раз-пораз у цемры за акном успыхвалі ліхтары, рэзкае святло раздражняла заспаныя вочы. Прыўзняўшы павекі, я бачыла кропкі дажджу на мутным шкле, а пасля зноў была чарната. Варушыцца не хацелася, і я працягвала драмаць тварам да акна. Раз-пораз праязджалі сустрэчныя аўтамабілі з вострымі промнямі фар. У памяці высвечваліся думкі, карцінкі, фразы, кароткія і глыбокія, нібы драпінкі.

Так і напішу пра Піцер. Штрыхамі-драпінкамі.

## ПЕЦЯРГОФ

Раніца надарылася стылая, сеяў дробны, дакучлівы дождж. Здавалася, быццам вялізны кот гулліва перабірае кіпцюрамі па маім парасоне. Заціснутая ў натоўпе незнаёмцаў, я аглядала стракаты акіян парасонаў. Усе чакалі: вось-вось пусцяць фантаны. Турысты былі паўсюль: на тэрасе перад палацам, на сходах, на любой прагаліне, дзе не тырчала таблічка «Просьба не ходить по газонам». Размыты імжой краявід нагадваў зярністую карцінку на экране старэнькага тэлевізара. Людзі, накрытыя парасонамі, стаялі шчыльна і непарушна, так што пры ўсім сваім спрыце я не здолела згледзець ані Самсона, ані львіные пашчы.

Скажаце, будзённа, празаічна? Так, але я і не рыфмую. Прынамсі, у тую хвіліну мне было не да паэзіі. Вось што запомнілася: цесна, людна, імжыць, а над галавою растапыраныя спіцы парасона. Знутры прыемна казыча лёгкае, быццам пёрка, хваляванне. Такое, калі таемна падглядаеш у замочную шчыліну.

Не заляцаліся на сонцы шыкоўныя скульптуры, не звінелі птушыныя галасы, са старога парку пацягвала цвіллю. Але пад дажджом было ціха і радасна ў прадчуванні фантанаў.

***

Колькі хвілін — і палілася ледзь чутная музыка. Пакрысе фантаны абуджаліся. Публіку ўскалыхнула захапленне, турысты заварушыліся, схапіліся за камеры, фотаапараты, мабільнікі. Спачатку вада цурчэла павольна і капрызліва, але мелодыя нібыта чаравала яе, падахвочвала то лісліва, то ўладна. Нябачны аркестр граў мацней і мацней, і фантаны паслухмяна ўзнімаліся ў вышыню. Паветра напоўнілася дажджом, музыкай і гуллівымі пырскамі.

Вада біла з-пад ног, бегла па лісці і па каляровых купалочках парасонаў. Дзівоснае відовішча. Не, вадовішча.

***

Мы з сяброўкай паволі ішлі ліпавай алеяй ад фантана «Адам» да фантана «Ева».

— Юль, кім ты адчуваеш сябе тут, у Пецяргофе?

— Турыстам, які трапіў у неверагодна прыгожае месца і любуецца наваколлем.

— А я… Адчуваю сябе маленькім Пятром.

— Ну, гэта я даўно за табой заўважыла.

— Сур'ёзна. Разумееш, здаецца, усё тут маё: і парк, і фантаны, і палацы. А людзі тут толькі таму, што я запрасіла іх у госці. Пасля яны паедуць, а я застануся адна і буду рабіць што захачу. Магу і цябе пакінуць, калі пажадаеш.

— Гучыць прывабна, але, баюся, для мяне будзе залішне гонару. Прайдзі крыху наперад, я цябе шчоўкну.

Я адбегла на колькі крокаў і, крутнуўшыся на абцасах, стала спінаю да «Евы». Юля была прыцэлілася, але хутка апусціла камеру і расчаравана пахітала галавой:

— Не атрымаецца, вашамосць, выбачайце. Вунь тая кампанія наводдаль псуе кадр.

Я азірнулася: трое маіх «гасцей» павольна соўгаліся па алеі, штосьці нягучна абмяркоўваючы. Захацелася філасофстваваць, блазнаваць і велікадушнічаць адначасова. Таму, паціснуўшы плячыма, я міласціва прамовіла:

— Нам сапсавалі кадр, мы некаму сапсавалі кадр. Дазваляю: няхай усе псуюць адно аднаму кадры. Фоткай маленькага Пятра з невядомымі гасцямі. На памяць. Праз гадзіну ў мяне ўжо не застанецца ні фантанаў, ні палацаў, ні гасцей.

***

Мы падбегам шыбавалі ў бок аўтобуса, баючыся спазніцца. Каб не працяглы ранішні дождж, сцежка, напэўна, курэла б пад нагамі бясконцай чарады турыстаў. Марудзіць не выпадала, ды адна маляўнічая сцэна прымусіла мяне міжволі сцішыць хаду. У зацішным кутку побач з фантанам, у атачэнні акуратна падстрыжаных кусточкаў, бавілася купка святочна апранутай моладзі. Прысеўшы на кукішкі, жанчына з фотакамерай здымала маладзёнаў: жаніх абдымаў нявесту ў пышных вясельных строях. Хлопцы гучна жартавалі, чуўся залівісты дзявочы смех. Фатограф, жэстыкулюючы, пачала нешта тлумачыць.

А потым малады чалавек падхапіў паненку ў вянчальным уборы і пачаў мякка, асцярожна яе кружыць. Весела рассыпаліся ўгары пырскі фантана, белая сукенка здавалася пухкай, быццам воблака. Кружацца, як у кіно «Мой ласкавы і пяшчотны звер», падумалася мне.

Так развітаўся з намі Пецяргоф. Пабачыць бы тыя вясельныя фотаздымкі…

## ПАЎНОЧНАЯ СТАЛІЦА

Мы выйшлі з гасцініцы на вузкую вуліцу Каломенскую. Юля разгарнула турыстычны план горада і на хвіліну згубілася за гэтай шырачэзнай картай-прасцінай. Я не стрымала ўсмешкі: побач стаяла геаграфія Піцера на дзявочых ножках у джынсах. Нарэшце мая кампаньёнка паказалася і абвясціла маршрут: спачатку на Лігаўскі праспект, а адтуль — на Неўскі.

Праз душнае шэрае мроіва хмар нарэшце прарвалася сонца. Змрочныя старыя будынкі адразу павесялелі, і Лігаўка сустрэла нас прыветліва. З першага погляду праспект падаўся мне нейкім пыльным і нязграбным. Шумна насіліся машыны, стомлена бразгаталі рэдкія аўтобусы і маршруткі, людзі крочылі па вузкіх тратуарах, і не заўсёды атрымлівалася з імі размінуцца: адзін раз мяне зачапілі плячом, другі — сумкай. Папраўдзе, я мала глядзела па баках. Адчуванне было, нібы мяне аглушылі і закінулі ў вялізны мурашнік. Прыгаломшаная, з дурнавата-шчаслівым тварам, я аглядала шалёны праспект, замурзаны дажджамі і графіці.

Адчыняліся дзверы танных і не вельмі кавярняў, шматлікіх кругласутачных крам. Пазней падчас прагулак нам сустракаліся назвы «Белорусские товары» і «Белорусский лён», а аднойчы нават сумбурнае найменне «Белорусский ласунак». Выглядала дзіўнавата, нават недарэчна, але прыемна было адчуць сябе замежнікамі ў горадзе, дзе размаўляюць па-руску.

***

А потым знікла сонца. Спёку сагнала ветрам, і неяк неўпрыкмет насунуліся хмары. Літаральна праз хвіліну ўзняўся сапраўдны шквал. З неба пасыпаліся рэзкія і злыя, як кулі, кропелькі дажджу. Нас з сяброўкай навальніца заспела нечакана: мы адсочвалі свой шлях па карце. Юля скамечыла падмоклае ўжо прасціradла-карту, я схапілася за парасон.

Тым часам вуліцу залівала. Рэдкі прахожы хаваўся пад парасонам, ды многія, асабліва жанчыны, беглі, прыкрываючыся хоць чым, а большасць уцякала ад непагадзі ўгнуўшыся, падставіўшы плечы пад хлёсткі лівень. Я заўважыла арку, дзе купка бедакоў ратавалася ад залевы, і рынулася туды па лужынах, па бурлівых ручаях. Пругкія струмяні сцябалі па нагах, чаравікі прамоклі ўшчэнт. Скочыўшы пад арку перавесці дух. Юля са шкадаваннем агледзела набрынялую дажджом шматпакутную карту. Гаваркі пецярбуржац спачувальна пацікавіўся:

— Вам куда?

— На Невский.

— Это в ту сторону, совсем недалеко.

Калі дождж сціх, мы высунуліся са сховішча і, мокрыя, зніякавелыя, пасунуліся ў падказаным напрамку. Вуліца зноў напаўнялася людзьмі. Вопратка ў некаторых — хоць выкручвай, іншыя кудлацілі рукой мокрыя валасы, хтосьці бойка, нават адчайна, шлёпаў па лужынах — чаго губляць! Дзіўна, але ніводнага сярдзітага, заклапочанага твару. Пранеслася навальніца, і людзі ўсміхаліся.

Заблішчэла сонца. У небе над Неўскім выгнуліся дзве вясёлкі.

***

Неўскі праспект нагадвае багаты дом, звыклы да заўсёдных вечарын, самавітых манер і бескалапотных забаў.

Першы крок па Неўскім — і на мяне абрынулася бурнае, неўтаймоўнае, яркае жыццё. На праезджай частцы — працьма машын, бясконцы бурлівы рух, але пешаходы тут звыклыя і не надта пужлівыя. У любы зручны момант нахабна ломяцца на «чырвонае» — аўтамабілі люта сапуць і сігналяць у бяссільным абурэнні. На тратуарах таўкуцца неадчэпы з флаерамі і рэкламнымі ўлёткамі, увечары іх большае. Аднаго абмінеш — другі ўсуне «рэкламку», а потым у кішэні намацваеш тузін пакамечаных паперак.

Паабапал дарогі цягнуцца нізкі рэстаранчыкаў, бістро і буцікаў на любы густ. Усё, каб задаволіць стракатую неўскую публіку. Я ішла быццам захмялелая. Ад бясконцага сузірання вітрын замылілася вока, але на Неўскім ахапіла турысцкая ліхаманка — глядзець, яшчэ, яшчэ і яшчэ. Глядзець прагна, як у апошні раз.

***

Сноўдаючыся па горадзе, я здалёк бачыла Казанскі сабор. Аднойчы крадком згледзела яго з акна экскурсійнага аўтобуса. Але тых ўражанні былі нішто.

Я стаяла перад храмам блізка-блізка. Ён ляцеў на мяне, раскінуўшы ўбакі каланады, нібы крылы.

Увайшла. Запаў у душу незнакаміты і сціплы абраз святых пакутнікаў Раманавых.

Над галавой, недасягальны і ясны, лунаў купал.

На сёмым небе... Калі ў неба ёсць паверхі, то, напэўна, першы з іх — купал Казанскага.

***

Перш чым увайсці ў Эрмітаж, давялося чакаць чаргі ва ўнутраным двары. Народу багата. Паўсюль гамана, розныя мовы змяшаліся ў несціханае пчалінае гудзенне. Сярод шумлівага рою турыстаў мы нарэшце прасачыліся ў Зімовы. Колькі хвілін суцэльнага гармідару: натоўп, штурханіна, лесвіцы, пераходы — і раптам даволі прасторны пакой. Пасля задушлівай мітусні ахінула стрыманай, пачцівай цішынёй. Адсюль пачыналіся царскія інтэр'еры.

Перад вачыма праплывалі высокія бальныя залы з вычварнымі жырандолямі, аксамітна-змрочныя калідоры, упрыгожаныя габеленамі, вытанчаныя і шыкоўна аздобленыя будуары. Паўставаў далёкі, незразумелы побыт у мармуры і золаце, з чароўнымі фарфоравымі забаўкамі і крышталёвымі бразготкамі.

А са сцен галерэі Раманавых глядзелі тыя, хто некалі звыкла і па-свойску карыстаўся гэтай нечуванай раскошай.

Між тым туфлік імператрыцы Марыі Фёдараўны быў надзва невялічкі, як паставіць на мужчынскую далонь. Тысяча з гакам пакояў, больш як паўтары сотні лесвіц — даволі прасторы для гаспадыні з мініяцюрнымі ножкамі.

Блукала па Эрмітажы зачаравана. Губляючыся між лесвіц, галерэй, калідораў, вандравала ад егіпецкіх саркафагаў да антычных скульптур, а пасля праз італьянскі рэнесанс трапляла ў жывапіс Нідэрландаў. Блытана, бязладна, сумбурна праплывалі розныя эпохі.

Іншаземная публіка таўклася вакол да Вінчы і Рэмбранта, бы маланкі ў навальнічных хмарах, безупынна пабліскваlі фотаўспышкі. На колькі хвілін я далучылася да мастацкага паломніцтва, вядома, з цікавасці і каб адзначыць галачкай у памяці: «Бачыла славутыя арыгіналы». На жаль і на вялікі сорам, адчула сябе невукам ва ўсім, што датычыць жывапісных тэхнік, стылю, манеры... Але гэта не перашкодзіла атрымліваць асалоду.

***

Міхайлаўскі замак ахінуў бераг Мойкі, быццам змрочны злавесны прывід… Застылы Лятучы галандзец…

Высозны шпіль пагрозліва настаўлены ў начное неба. Уздоўж сцен — чорныя абрысы дрэў. Пустыя вокны пазіраюць халодный цемрай. Акружаны вадой, зацяты і маўклівы, замак незычліва сустракае позніх гасцей. Здаецца, яму не дае спакою крыўда за свайго нешчаслівага гаспадара, рыцара, забытага ў чужым стагоддзі.

Боязь, прымхі, недавер, падазронасць… Баронячыся ад варожага свету, уяўных і сапраўдных страхаў, імператар Павел з адчайнай паспешлівасцю ўзводзіў крэпасць, абведзеную ровам. У сырым, халодным замку магістру Мальтыйскага ордэна было спакойна. Але таўшчэзны мур аказаўся не больш надзейны за шкарлупіну…

Неўзабаве пасля трагедыі Раманавы пакінулі гэта месца: асцерагаліся праклёну. А замак, што не здолеў ўратаваць гаспадара, захоўвае процьму легенд і далёкі, самотны ўспамін.

***

Беспрытульна і холадна над Нявой жнівеньскай ноччу. На абліччах сфінксаў — глыбокія ледзяныя цені. Чорная вада вольна гуляе ў берагах, хвалі куляюцца і б'юцца ў гранітную набярэжную. Ліхтары абводзяць жоўтымі вачыма пляц і сходы да ракі, пільна сочаць, як Нява драпежнікам падкрадваецца з цемры, ціха ліжа нізкія каменныя прыступкі.

Нацягваю капюшон на самыя бровы, пацепваючыся, стаю пад ветрам. Юля побач ляскае зубамі, хутаючыся ў дарожны плед.

На процілеглым беразе ў змроку часам міргаюць фотаўспышкі: там мерзнуць гэткія ж начныя вандроўнікі — нецярплівая публіка. Над ракой, дзе сабраліся кацеры і лодкі з турыстамі, таксама зрэдку паблісквае.

Безліччу агнёў гарыць Дварцовы мост. За ім раскінуўся цэлы архіпелаг ззяння і святла — Зімовы палац. На вадзе расплываюцца мяккія блікі: чырвоныя, белыя, залатыя… Зажмурылася: гэта рэзкі вецер нагнаў слёзы.

Раптам мост ажывае, крылы яго паціху пачынаюць распроставаца — так паволі ўзнімаюцца бровы на твары здзіўленага, ашаломленага чалавека. А яшчэ так распускаюцца кветкі.

Стаіўшыся, глядзела, як разрываецца гірлянда агнёў і разыходзяцца берагі Нявы. Няспешна, урачыста, быццам ува сне. Такога больш не ўбачыш нідзе.

# Верш, народжаны памяццю




З'ява вядомая: вершы ў паэтычным зборніку ўспрымаюцца намнога больш пранікнёна і глыбока, чым калі яны гучаць са сцэны ці пад акампанемент гітары ля студэнцкага вогнішча на маёўцы. Бывае такое: слова агучанае і слова напісанае не супадаюць.

«Лірычны верш — гэта заўсёды валявы акт, заклінанне, «змова», унушэнне, насланнё, чарадзейства», — так сцвярджае ў кнізе «Змястоўнасць мастацкіх форм» выдатны крытык і даследчык літаратуры Георгій Гачаў. У дачыненні да вершаў маладой паэтэсы Таццяны Куприянец друкаваны верш можна назваць яшчэ і «ўчынкам»: яна выдала кнігу за ўласныя сродкі, ашчаджаныя са стыпендыі, студэнцкіх заробкаў. І назвала кнігу «Водгукі памяці», хоць сама яшчэ ў даволі юным узросце.

> *Аўтарка абвострана адчувае тое, што захавалася ў чужой памяці, і выказвае гэта з дрыготкім і пякучым болем. Яна арганічна ўваходзіць у перажыванні ваеннага пакалення, і ёй верыш, суперажываеш.*

Здавалася б, якой памяці? Аказваецца, памяці пра тую далёкую вайну, што раскалола свет напалам. «Чаму ў мяне столькі вершаў на ваенную тэму? — пытаецца ў пасляслоўі Таццяна і тут жа адказвае: — Мой дзед ваяваў, дайшоў да Берліна. Я шчаслівая, што паспела пачуць яго аповеды пра вайну». Творы «Мая вайна», «Т-34», «Паветраны бой», «Бой у моры», «Два салюты»... Вершы шыхтуюцца, быццам салдаты ў строй.

Так узнікае яшчэ адно пытанне: якая памяць пра вайну ў сённяшніх студэнтаў? Памяць продкаў? Памяць пакаленняў? На генным узроўні? Як успаміны пра сямейныя боль і трывогі, усведамленне славы і ўдзячнага супакаення, што выстаялі, змаглі, здужалі? Як малады мастак слова можа прасякнуцца той памяццю, што чытач не адчуе штучнасці, «зробленасці» верша?.. Ключ — верш «Маўчыце».

*Не плачь, — слащавы голоса, —*
*Забудь про беды!*
*Уткнувшись взглядом в небеса,*
*Я вижу деда.*

Аўтарка абвострана адчувае тое, што захавалася ў чужой памяці, і выказвае гэта з дрыготкім і пякучым болем. У гісторыі літаратуры ёсць нямала цудоўных прыкладаў падобнага феномена. Прыгадаем Міхаіла Святлова і яго верш «У разведцы», які пасля «Грэнады» лічыцца адным з самых лепшых.

*Пуля в лоб ему попала,*
*Пуля в грудь мою вошла.*

Каб прагучаў голас дзеда, Таццяна мусіла яго пачуць. І з поспехам, вартым таленту майстроў слова, зрабіла гэта. Арганічна аўтарка ўваходзіць у адчуванні і перажыванні ваеннага пакалення, і ёй верыш, суперажываеш. У гэтым таемная сіла мастацкага слова — у майстэрстве пераўвасаблення.

*А теперь мне пора,*
*я сражаться устал*
*С этой болью, смешавшейся*
*с кровью.*
*Мне с небес только что*
*подмигнула звезда…*
*Мы застыли с ней вместе*
*в безмолвье.*

Верш «Я сыду» напісаны, як і астатнія, ад імя дзеда паэткі. Рэдкі, унікальны выпадак яднання душ, напрамку мыслення. Аўтарка ставіць сябе на месца салдата, які вынес на сваіх плячах цяжар доўгіх гадоў ваеннага супрацьстаяння і добра разумее цану нашай перамогі.

*Вдыхая росу обновлённой*
*земли,*
*Я чувствую, знаю: здесь*
*были бои.*

У паэзіі Т. Купрыянец — непаўторныя інтанацыі, знаходкі («зарниц мечи не затупяться», «Это осень. Она повторится, / Настроение — нет», «Молчите. Ввек я не предам / Святую память, / Вам не понять — забывшим вам, — / О чём мне плакать».).

Ні грама прэтэнцыёзнасці, манернічання, што нярэдкапрыводзяцьдасаладжавапанегірычнай, салоннай паэзіі, а часцей — да натуралістычнага апісання альбо выразна рацыянальнага пыдыходу, абстракцыі; тут пераважае жывое пачуццё жывога чалавека, душы, цесна знітаваной з душой воіна-пераможца. Каб не распалася сувязь часоў і пакаленняў, каб панавалі на свеце не нянавісць, смерць і хаос. «Учите мудрости в стихе живом и внятном», — раіў Буало ў «Паэтыцы»:

*Так пусть всего милей вам*
*добродетель будет!*

*Ведь даже если ум и ясен*
*и глубок,*
*Испорченность души*
*всегда видна меж строк.*

У радках Т. Купрыянец заключаная вялікая сіла ўздзеяння мастацкага слова. У маладой паэтэсы сустракаюцца і шчымліва-лірычныя ноткі («Гітара — родная душа»), і пейзажныя замалёўкі («Жоўты верш», «Захад»), і растрывожанае каханнем слова («Я з табой», «А ты памятаеш?»).

Засталося дадаць, што «адкрылі» малады талент літаратурныя конкурсы і імпрэзы, якія пастаянна праводзіць Саюз пісьменнікаў Беларусі.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ,**
**старшыня прыёмнай камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# У бясконцасць — і далей!..

Тэма перастварэння, перайначвання свету і чалавека была надзвычай актуальнай і надзённай для беларускай паэзіі першай трэці XX стагоддзя. Бурныя падзеі рэвалюцыйнай эпохі з яе востра пастаўленымі анталагічнымі і духоўнымі пытаннямі быту і быцця свету атрымалі ў паэтаў адраджэнскай і ўзвышэнскай генерацыі самае шырокае адлюстраванне.

Кожны з беларускіх паэтаў меў больш-менш устойлівы характар ідэйна-палітычных і мастацка-эстэтычных установак і перакананняў, але фундаментам іх творчасці хутчэй за ўсё выступала моц індывідуальнай псіхалагічнай энергетыкі, імкненне вызваліцца з тэмпоральнай і прасторавай абмежаванасці быцця і выйсці ў прастору ідэальнай бясконцасці, у Вечнасць і нават за яе межы.

Сапраўдны, таленавіты паэт — заўсёды магутная, неўтаймаваная энергія духу, якая ў сваім памкненні да шчырага дыялогу са светам знаходзіць магчымасць выйсці на новую ўзаемасувязь паміж прадметамі рэчаіснасці, да новага сузірання містэрыі свету.

Менавіта такім апантаным творцам выявіў сябе паэт Уладзімір Жылка. Агульны пафас рэвалюцыйнай перабудовы свету для паэтычна-мастацкай звышзадачы геніяльна выявіў рускі паэт-сімваліст А. Блок.

*О, весна, без конца и без краю —*
*Без конца и без краю мечта!*
*Узнаю тебя, жизнь! Принимаю!*
*И приветствую звоном щита!*

У паэце ён бачыць найперш асобу рыцара, падрыхтаванага да сустрэчы з жыццём, не баючыся як яго гармоніі, так і дысгармоніі. Вобразы-сімвалы «вясны» і «мары» як найлепш даводзяць



да нас думку аб тым, што актыўная матэрыя духу разліта ва ўсім: і ў вітальным свеце прыроды, і ў ідэальным унутраным свеце чалавечай думкі.

Такім жа адданым рыцарам паэзіі, абаронцам высокіх эстэтычных ідэалаў мастацтва выявіў сябе ў творчасці і У. Жылка, які захапляўся лірыкай А. Блока.

Вельмі сімптаматычна тое, што першы свой зборнік вершаў, які выйшаў у Вільні ў 1924 годзе, У. Жылка назваў «На ростані». Менавіта такая назва вызначае паэтычнае і эстэтычнае крэда паэта. «Ростані», «скрыжаванне», «капцы канцовыя» — частыя вобразы-сімвалы яго вершаў, падкрэсліваюць схільнасць паэта да пашырэння меж будзённай рэчаіснасці, якая сваёй коснасцю, інертнасцю, звужанасцю светабачання стрымлівае парыванне чалавека да развіцця і самаўдасканалення.

Панаванне будзённай замаруджанасці і коснасці жыцця ўтрымліваецца на палахлівасці ўспрыняцця чалавекам новага, нязведанага. Такі стан унутранай няўпэўненасці адчувальны і для мастацкага свету паэта, які ў аднайменным са зборнікам вершы перадае трывожны настрой:

*І торба вось, і кій дарожны:*
*Пара ў пуціну мне даўно…*
*А я — нясмелы і трывожны,*
*А я — на ростані адно.*

Але паэт наканаваным яму лёсам вымушаны шмат у чым першым зрабіць крок наперад, у нязведанае. Ён павінен выйсці за край бачнага, звыклага, каб паспрабаваць асвяціць шлях іншым. Глыбока пачуццёва перадае гэта У. Жылка ў вершы «Напярэдадні» (1923).

*Ў амшарах, балотах, лагчыне*
*Бялявы, празрысты туман;*
*А неба — глыбока і сіне,*
*А неба — бязмежны дыван.*
*І лес у чаканні бязмоўным*
*Зялёнай жывою сцяной*
*Стаіць, маліцвенасці поўны,*
*Ўрачыста, як на мшы святой.*
*Зацвіркала першая птушка,*
*І ветрык павеяў свяжэй.*
*Ружова-ядвабная стужка*
*Палае ярчэй і ярчэй.*

Чалавек-творца, наватар тут паўстае ў вобразе «першай птушкі», якая абуджае наваколле ад сну. З «амшарна-балотнай лагчынай» спрадвечнага жыцця паэт не згодны мірыцца, таму і пачынае шлях пад «ружовым сцягам-стужкай» пераўтварэння.

Сімвалы вясны, жыцця, смерці, ветру, туману, ночы, балота, лілеі, мары паўстаюць у лірыцы У. Жылкі быццам канкрэтнымі, лёгкадаступнымі нашаму нацыянальна-ментальнаму ўяўленню вобразамі, але яны пад энергетычным уздзеяннем паэтыкі пачынаюць азначаць штосьці недасяжнае, цьмянае.

Сімвал заўсёды дыялектычны і дыялагічны знак-метафара. Логіка яго існавання — логіка супярэчнасці, і існуе сімвал як канкрэтны арганічны сінтэз зменлівага і ўстойлівага, формы і зместу, руху і спакою, канечнага і бясконцага, абмежаванага і бяскрайняга. Паэзія заўсёды ўзнікае на аснове сімвалічнага, своеасаблівага спосабу пашырэння свету.

У ёй прадметам, рэчам, з'явам свету даецца магчымасць «гаварыць» з чалавекам, «валодаць моваю». У такой духоўна-мастацкай атмасферы чалавек пачынае дыхаць з прыродай адным жыццём, ён атрымлівае магчымасць любіць, адчуваць, разумець, гаварыць з прыродным светам — адухаўляць яго, пашыраць яго межы і паглыбляць веды пра яго. Вось як выразна духоўна-светасузіральна падае гэту містэрыю ўзаемаадносін паэта і прыроды У. Жылка ў вершы «Я люблю густыя шумы» (1923).

*Я люблю густыя шумы,*
*Перагуд высокіх хвой.*
*Ў цень і ціш лясной задумы*
*Я люблю прыйсці вясной.*
*Спачываючы ад болю,*
*Ад няпраўды і маны,*
*Пазнаваць чужую волю,*
*Дыхаць пахам сасніны.*
*І, спусціўшыся лагчынай*
*У зарослы дол сыры,*
*Між бяроз, густой ляшчынай*
*Заблудзіцца ў гушчары.*
*Дзе таёмна, сцішна, змрочна,*
*Дзе вільготны мяккі мох,*
*Дзе ўзіраецца ставочна*
*Збуджаны Перапалох.*

Менавіта «ставочным Перапалохам» павінен быць паэт, каб уразіць, здзівіць, пераканаць вузкі абывацельскі, мяшчанскі свет чалавека. Праз творчы пачатак у чалавеку і асабліва праз высокі крэатыўна-духоўны запал прырода актыўна рэалізуе сваю асноўную духоўную місію — эвалюцыйную. Як вядома, магчымае, імавернае ці неабходнае выступаюць заканамернымі сувязямі, па лекалах якіх развіваецца жыццё, а сучаснае пераходзіць у будучыню.

Таленавіты мастак слова інтуітыўна прадбачыць магчымасць тых ці іншых сітуацый, якія затым рэалізуюцца. Гэта так званая прарочая місія паэта.

У. Жылка быў уключаны як у бурлівае сацыяльна-палітычнае жыццё Беларусі, так і ў творча-мастацкае перастварэнне рэвалюцыйнай рэчаіснасці. Гэта давала яму магчымасць не толькі штосьці прыкмячаць і прадбачыць, але і змагацца за лепшую будучыню. І нават пакласці на алтар гэтай барацьбы сваё жыццё.

У вершы «Покліч» (1920) малады яшчэ паэт адкрыта прамаўляе кодэкс патрыёта:

*Не плач, не плач па сыну маці,*
*Сягоння сорам быць у хаце,*
*Бо ўзнят за волю грозны меч,*
*Бо хутка будзе злая сеч,*
*Няхай і ён юнак адважны,*
*Ідзе туды, дзе б'ецца кажны*
*За волю новую без слёз,*
*За лепшы Бацькаўшчыны лёс.*

Ісці на змаганне за волю і шчасце свайго краю ёсць звыклы, ганаровы і пачэсны абавязак грамадзяніна, але ва ўмовах доўгай сцёртасці нацыянальнай і грамадска-палітычнай прыналежнасці, самаідэнтыфікацыі прызыў да змагання за паўнавартасную дзяржаўнасць Беларусі быў у поўным сэнсе крокам за край. Гэты крок для паэта — набат, заклік да землякоў ступіць на шлях барацьбы за ўстойлівую, сапраўдную, вечную рэальнасць духу і «цела» народа, яго бессмяротнасці.

**Ігар ШАЛАДОНАЎ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# Мінская бібліятэка

**Пра Мінск напісаная незлічоная колькасць кніг, і абмеркаваць іх у межах аднаго агляду бадай што немагчыма. Гэты спіс не можа прэтэндаваць на аб'ектыўнасць — я згадаю толькі тыя кнігі, якія чытаў сам і якія дапамаглі лепш зразумець наш горад альбо зірнуць на яго з новых ракурсаў. З гэтай самай прычыны не будзе тут твораў, прысвечаных сучаснаму Мінску. Тым не менш усе згаданыя кнігі можна знайсці ў кнігарнях альбо ў інтэрнэце. Але па парадку: пачнём з літаратуры нон-фікшн.**

### Захар Шыбека. Мінск сто гадоў таму




Набыць гэтую кнігу я папрасіў у мамы падчас святкавання Дня горада ў 1996 годзе, калі мне было сем гадоў, — і выданне гэтае зрабілася маім першым падручнікам па гісторыі горада. Ад 1990 года кніга Захара і Соф'і Шыбекаў «Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада» вытрымала некалькі перавыданняў пад рознымі назвамі па-руску і па-беларуску. Мяркую, запатрабаваная яна будзе заўсёды. Кніга складаецца з дзвюх частак, першая з іх называецца «З архіву менскага жыцця» і распавядае пра дарэвалюцыйны губернскі цэнтр, яго насельнікаў і іх паўсядзённасць. Другая частка прысвечаная ўстановам і прадпрыемствам з указаннем іх дакладных адрасоў, якія не дадуць вам заблукаць у тагачасным Мінску. Кніга багата аздобленая старымі фотаздымкамі і рэканструкцыяй тагачаснай карты горада, што робіць пагружэнне ў атмасферу губернскага Мінска яшчэ глыбейшым.

### Леанід Маракоў. Галоўная вуліца Мінска 1880 — 1940 гг.




Плён неверагоднай па аб'ёме і якасці працы даследчыка Леаніда Маракова (пляменніка вядомага паэта міжваеннага перыяду) апублікаваны ў 2012 — 2013 гг. у выглядзе двух дыхтоўных тамоў вялікага фармату, якія змяшчаюць інфармацыю пра больш як дзве сотні дамоў, што стаялі на галоўнай вуліцы Мінска, іх жыхароў за ўсе азначаныя гады, а таксама ўстановы, якія там размяшчаліся. Кнігі аздобленыя незлічонай колькасцю фотаздымкаў, планаў і архіўных дакументаў. Пераказаць гэта немагчыма — лепш адзін раз пабачыць.

### Томас Бон. Мінскі феномен

Грунтоўнае даследаванне нямецкага навукоўца, рускамоўны пераклад якога з'явіўся ў 2013 годзе, прысвечанае паваеннаму развіццю Мінска і вывучэнню на ягоным прыкладзе спробы стварыць сацыялістычны горад будучыні. Кніга адкрываецца цытатай з Бертольда Брэхта: «Мінск — адзін з найнуднейшых гарадоў свету». Зрэшты, сам факт з'яўлення працы Томаса Бона, здаецца, абвяргае гэты тэзіс. Са старонак кнігі вы даведаецеся ўсё аб праектаванні Мінска, міграцыі і ўмовах жыцця новых гараджан, а таксама неафіцыйных сферах савецкай паўсядзённасці. Вялікую цікавасць уяўляе багатая статыстычная частка.




### Віктар Корбут. Лепшы від на гэты горад

Цікавая спроба сабраць пад адной вокладкай таямніцы розных часоў і малавядомыя факты пра Мінск ад журналіста газеты «СБ. Беларусь сегодня» і экскурсавода Віктара Корбута (кніга выйшла ў 2013 г.). Сакрэты горада раскрываюцца ў гутарках з гараджанамі: археолагамі, архітэктарамі, мастакамі, кулінарамі, літаратарамі і краязнаўцамі, а таксама сваякамі славутых мінчукоў. Асобныя раздзелы кнігі прысвечаныя праблемам высвятлення даты і месца заснавання горада, рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры, гісторыі міжваеннага будаўніцтва і пасляваеннага аднаўлення Мінска, трагічным старонкам нямецкай акупацыі і многім іншым цікавосткам. Гэтая захапляльная кніга таксама добра ілюстраваная і можа быць цудоўным чытвом як для тых, хто даўно цікавіцца гісторыяй Мінска, так і для гасцей горада.




### Міхаіл Валодзін. Наш стары добры Вавілон




Зборнік гарадскіх гісторый (альбо, як піша аўтар — «исто-риек»), у якіх эпохі і лёсы пераплятаюцца так, што нават дасведчанаму знаўцу мінскай мінуўшчыны цяжка правесці мяжу між рэальнасцю і фантазіяй. Сюжэты ўпарадкаваныя ў выглядзе экскурсійнага маршрута ад чыгуначнага вакзала да плошчы Перамогі. Выданне, якое з'явілася на свет летась, арыгінальна аформлена мастакамі Ігарам Рымашэўскім і Сяргеем Стэльмашонкам, тэкст кнігі пададзены адначасова па-руску і па-англійску, што робіць яе выдатным падарункам для замежных турыстаў.

### «Мінск незнаёмы» ды іншыя фотаальбомы

Першым падборку здымкаў горада за канкрэтны перыяд сабраў пад адной вокладкай Ільля Куркоў у альбоме «Мінск незнаёмы 1920 — 1940», які выйшаў у 2002 годзе. У прадмове да выдання ўкладальнік узнаўляе атмасферу міжваеннага Мінска, звяртаючыся як да архіўных крыніц, так і да мастацкіх твораў беларускіх літаратараў. Акрамя 250 фотаздымкаў, альбом утрымлівае копію тапаграфічнай карты горада і ваколіц, а таксама тэкст «Спадарожніка па Менску» 1930 года з адрасамі разнастайных тагачасных устаноў, маршрутаў гарадскога транспарту, раскладам руху цягнікоў, коштамі на міжгароднія тэлефонныя перамовы, спісам перайменаваных вуліц з іх ранейшымі назвамі, а таксама пералікам экскурсій, якія прапаноўваліся гасцям сталіцы БССР.

Паводле падобнага прынцыпу ўкладзеныя тры фотаальбомы Віталя Кірычэнкі, прысвечаныя паваеннаму развіццю Мінска ў 1944 — 1969 гадах (выйшлі ў 2004, 2006 і 2007 гг.).




Кожны з іх утрымлівае інфарматыўную прадмову, якая акрэслівае карціну гарадскога жыцця ў азначаны перыяд, каля 300 фотаздымкаў і табліцу з пералікам вуліц, якія за гэты час змянілі назвы.

### Зоф'я Кавалеўская. Мінскія абразкі

Пераходзім да разгляду мемуарнай прозы і пачнём з неацэннай крыніцы — «Мінскіх абразкоў», у аснову якіх пакладзены апрацаваны фалькларысткай Зоф'яй Кавалеўскай дзённік выкладчыка мінскай гімназіі Фердынанда Шаблоўскага. Кніга выйшла ў 1912 годзе і ахоплівае перыяд часу ад вайны з Напалеонам і да задушэння паўстання 1863 — 1864 гг., апісваючы шляхецкі асяродак Мінска ў часы ягонага росквіту. Са старонак «Абразкоў...» паўстаюць партрэты славутых асоб: краязнаўца Міхала Гаўсмана, сям'і Ваньковічаў, паўстанцаў братоў Свентажэцкіх і Міхала Цюндзявіцкага ды іншых.

### Міхал Паўлікоўскі. Дзяцінства і маладосць Тадэвуша Іртэнскага

Дзве аўтабіяграфічныя аповесці Міхала Крыспіна Паўлікоўскага, продкі якога фундавалі касцёл на мінскай Кальварыі, а сам ён быў сакратаром гарадской управы Мінска ў 1919 — 1920 гг. У гэтых кнігах добра паказаная




атмасфера горада перыяду Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў, тыя раптоўныя змены, якія адбываліся ў ваенны час у гарадскім асяроддзі, уся разнастайнасць шматэтнічнага і полікультурнага насельніцтва Мінска.

### Сяргей Пясецкі. Зладзейская трылогія

«Зладзейская трылогія» ўключае аўтабіяграфічныя аповесці вядомага польскамоўнага празаіка — «Яблычак», «Гляджу я ў вакно» і «Ніхто не дасць нам збаўлення», — якія апісваюць побыт гарадскіх крымінальных колаў часоў Грамадзянскай вайны і пастаянных змен улады, што заспелі аўтара ў Мінску. Апісваючы жыццё на Залатой Горцы і Ніжнім рынку, Пясецкі акцэнтуе ўвагу на ўнутранай інтэлігентнасці і сумленнасці злодзеяў, якія ніколі не крадуць у бедных і галодных, у той час як багацеі рабуюць простых людзей. Разам з тым аўтар паказвае ў гратэскным выглядзе новых уладароў горада — бальшавіцкіх камісараў. На жаль, творы Пясецкага са «Зладзейскай трылогіі» дагэтуль не даступныя па—беларуску, але іх польскамоўныя арыгіналы можна адшукаць у сецціве.

### Майсей Кульбак. Зельманцы

Раман класіка беларускай ідышамоўнай літаратуры, які распавядае міжваенную гісторыю менскага двара, населенага спадкаемцамі даўняга яўрэйскага роду. Старое пакаленне чапляецца за мінулае, а моладзь бярэцца шукаць шчасця на новы лад далёка за межамі двара. У выніку ўсе героі пераасэнсоўваюць свае ранейшыя погляды, а стары двор Зельманцаў гіне — яго руйнуюць для будаўніцтва цэху кандытарскай фабрыкі «Камунарка», дзе пазней месцілася бісквітная фабрыка (раён сквера на беразе Свіслачы каля гасцініцы «Беларусь»). Сёлета быў перавыдадзены беларускамоўны пераклад рамана, зроблены Віталём Вольскім.

### Сяргей Юр'енен. Фашыст праляцеў

Юнацтва выбітнага празаіка і журналіста расійскай эміграцыі прайшло ў Мінску, хаця народжаны ён далёка ад нашых краёў і назваць яго мінчуком можна толькі ўмоўна. Аповесць — своеасаблівы погляд збоку на Мінск як чужы, няродны, часам не да канца зразумелы горад, які з'яўляецца толькі дэкарацыяй для сюжэту жыцця. Мінск у гэтай кнізе паўстае пазнавальным, але, разам з тым, і нязвыкла іншым, амаль містычным.

### Алег Белавусаў. Мой горад

Кніга ўспамінаў вядомага мінскага сцэнарыста і рэжысёра, якая выйшла ў 2005 годзе, за чатыры гады да ягонай смерці, пераносіць нас у паваеннае дзяцінства аўтара на вуліцах Чырвонаармейскай і Маскоўскай, у ваколіцы Суражскага рынку, Грушаўкі і Таўстухі, а затым — на мінскі «Брадвей» і ў аўдыторыі БДУ. Мемуары поўняцца назіраннямі са шматлікіх вандровак аўтара далёка ад роднага горада, і філасофскімі адступленнямі.

Многія перыяды гісторыі і аспекты развіцця горада яшчэ не атрымалі поўнага асвятлення і чакаюць таленавітых аўтараў і даследчыкаў. Хто ведае, мо яны з'явяцца з ліку сённяшніх чытачоў? Мінская бібліятэка чакае працягу.

**Антон РУДАК**

Шчучын-2015

# Палац, у якім жыве гісторыя

**У чаканні Дня беларускага пісьменства ў Шчучыне прыгажэюць шматлікія будынкі і вуліцы, адкрываюцца новыя аб'екты сацыяльна-культурнай сферы, праводзіцца рэканструкцыя помнікаў архітэктуры і мастацтва. Да свята плануецца завяршыць рэканструкцыю палаца Друцкіх-Любецкіх, пра што ўжо даўно мараць мясцовыя жыхары. Адноўлены палац, размешчаны на беразе возера, безумоўна, стане адной з візітных картак горада.**

Архітэктурная жамчужына Шчучына ўзведзена ў канцы XIX стагоддзя па праекце віленскага архітэктара Тадэвуша Растварoўскага ў пераходным ад барока да класіцызму стылі. Строгасць прапорцый і велічнасць агульнай архітэктурнай задумы, уласцівая класіцызму, спалучаецца з мяккасцю і нават гуллівасцю калон, закругленай сцяной на франтоне. Сцяна прызначалася для гербавага шчыта, які, на жаль, не захаваўся.

У краязнаўчай літаратуры доўгі час існавала блытаніна, звязаная з часам пабудовы палаца і прозвішчам яго архітэктара. І ўсё з-за таго, што ёсць два Шчучыны: беларускі і Шчучын Мазавецкі (Польшча). Часта, не разабраўшыся ў тым, пра які горад ідзе размова ў пісьмовых крыніцах, даследчыкі механічна рабілі замену некаторых падзей, фактаў і імёнаў, звязаных з гэтымі населенымі пунктамі.

Ды яшчэ адна акалічнасць: па стылістыцы палац Друцкіх-Любецкіх выпадае з часу і з'яўляецца ў пэўным сэнсе прышэльцам з больш ранняй гістарычнай эпохі. Справа ў тым, што праект будынка быў распрацаваны паміж 1892 — 1895 гадамі, а будаўніцтва і аздабленне яго інтэр'ера завершана перад Першай сусветнай вайной, калі панавалі мадэрн і эклектыка, а не класіцызм і тым больш барока.

Пра тое, што менавіта віленскі архітэктар Т. Растварoўскі праектаваў Шчучынскі палац, сведчыць не надта добразычлівае меркаванне, выказанае яшчэ ў 1923 г. польскім архітэктарам Юліушам Клосам, які крытычна ставіўся да творчасці Т. Растварoўскага — выпускніка Імператарскай Акадэміі мастацтваў у г. Санкт-Пецярбургу.

*«Найбольш значны ўнёсак у развіццё Шчучына зрабіў Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі — выпускнік Пецярбургскага кадэцкага корпуса, удзельнік італьянскага паходу А. Суворава ў 1799 г., адзін з распрацоўшчыкаў (сумесна з М. К. Агінскім і Л. Плятэрам) «плана Агінскага» — праекта па аднаўленні Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Расійскай імперыі, які ў маі 1811 г. быў прапанаваны Аляксандру І.*

Палац замяніў драўляную сядзібу былых гаспадароў — Сцыпіёнаў. У новым выглядзе ён складаўся з трох частак — больш высокіх бакавых і зніжанай цэнтральнай з парадным уваходам.

Гаспадары маёнтка валодалі невялікай калекцыяй жывапісу. Гэта былі ў асноўным фамільныя і каралеўскія партрэты, выкананыя невядомымі мастакамі. Выключэнне складалі партрэт Марыі Друцкай-Любецкай, якая паходзіла з роду Шэметаў, пэндзля нямецкага жывапісца, аднаго з самых модных партрэтыстаў сярэдзіны XIX стагоддзя Франца Вінтэрхальтэра, і мармуровая скульптура «Леды».

У салонах можна было ўбачыць два фартэпіяна берлінскай фабрыкі Бехштэйна, піянолу і калекцыю французскага фарфору, фамільнае срэбра. Столь вялікага салона ўпрыгожвала жырандоля з венецыянскага шкла. На другі паверх вяла лесвіца, зробленая з дуба, пад якой размяшчаўся ванны пакой. Мэбля, па сведчанні апошніх уладальнікаў, належыла да розных стыляў. Жылыя пакоі былі абсталяваны больш сучасна. Шляхецкія традыцыі ўбрання ўдала спалучаліся з тэхнічнымі навінкамі. У 1908 г. прыватная тэлефонная лінія злучала палацы Друцкіх-Любецкіх у Шчучыне і Станіславава каля Гродна (былая каралеўская рэзідэнцыя, перададзеная расійскай імператрыцай Кацярынай II генералу Рубану, а пазней князю Францішку Ксаверыю Друцкаму-Любецкаму).



Князь Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі.

Палац быў цэнтрам вялікага маёнтка, гаспадарчыя пабудовы размяшчаліся з правага боку ад яго ва ўсходняй частцы Шчучына. Некаторыя захаваліся яшчэ з часоў папярэдніх уладальнікаў. Іншыя будынкі, стылізаваныя пад неакласіцызм, з'явіліся ў 1925 — 1926 гадах. Былая сталовая, размешчаная цяпер непадалёк ад палаца, была пабудавана ў другой палове — канцы XIX стагоддзя. Бібліятэка і архіў таксама змяшчаліся ў спецыяльным двухпавярховым будынку, які месціўся ў парку. Тут знаходзіліся дакументы Сцыпіёнаў і Друцкіх-Любецкіх з 1547 па 1846 год. Найбольш каштоўныя ў 1914 г. перадалі ў музей Чартарыйскіх у Кракаве, дзе яны захоўваюцца і сёння. Пакінутыя ў Шчучыне архіўныя матэрыялы і кнігі моцна пацярпелі падчас Першай сусветнай вайны. У міжваенны перыяд іх часткова прывялі ў належны выгляд, але Другая сусветная вайна канчаткова знішчыла кнігасховішча Друцкіх-Любецкіх.



Архіўнае фота палаца, зробленае ў пачатку XX стагоддзя.



Палац Друцкіх-Любецкіх — ідзе рэканструкцыя.

Маёнтак атачаў велізарны парк у некалькі дзясяткаў гектараў. Старая частка складалася з дзвюх ліпавых алей каля палаца. Парк спалучаў пейзажную і рэгулярную планіроўкі, паступова пераходзіў у дзікі, дзе месціўся звярынец. Пачатак фарміравання парку звязаны з дзейнасцю Сцыпіёнаў. Паводле старажылаў, да 1939 г. тут было 150 відаў дрэў. Найбольш славіліся яблыні, прышчэпленыя на бярозах, высокай якасці вінаград. Захавалася і імя апошняга садоўніка Друцкіх-Любецкіх — Тывіньская, які ўсё жыццё працаваў з дрэвамі.

Штучнага вадасховішча, да якога прызвычаіліся шчучынцы, у часы Друцкіх-Любецкіх не было. Між дрэў цякла рака Тур'я, праз якую перакінулі прыгожы масток. З левага боку ад палаца знаходзілася некалькі садкоў. Адсюль на княжы стол трапляла свежая рыба. Па прыкладзе князёў Друцкіх-Любецкіх магнаты і багатыя шляхцічы Шчучыншчыны пачынаюць будаваць у XIX стагоддзі шыкоўныя сядзібы з рэгулярнай планіроўкай: графы Пацы — у Рожанцы, Святаполк-Чатвярынскія — у Жалудку.

Найбольш значны ўнёсак у развіццё Шчучына зрабіў Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі — выпускнік Пецярбургскага кадэцкага корпуса, удзельнік італьянскага паходу А. Суворава ў 1799 г., адзін з распрацоўшчыкаў (сумесна з М. К. Агінскім і Л. Плятэрам) «плана Агінскага» — праекта па аднаўленні Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Расійскай імперыі, які ў маі 1811 г. быў прапанаваны Аляксандру І.

Пасля цяжкай кантузіі ў 1800 г. Ф. К. Друцкі-Любецкі выйшаў у адстаўку, жыў у маёнтку Чарлёны Гродзенскай губерні, у Шчучыне наведваў сваю сястру Тэрэзу, якая выйшла замуж за Юзэфа Сцыпіё Дэль-Кампа. У 1802 г. Тэрэза стала ўдавой і ёй вельмі дарэчы была дапамога брата па кіраванні маёнткам. У 1807 г. Друцкі-Любецкі ажаніўся з 14-гадовай пляменніцай Марыяй Сцыпіё Дэль-Кампа (дачка роднай сястры Тэрэзы) і пераехаў у Шчучын, у маёнтак сястры і жонкі.

У 1812 г. К. Ф. Друцкі-Любецкі быў абраны правадыром дваранства Гродзенскай губерні, з 1813 г. стаў членам часовай Вярхоўнай Рады Варшаўскага герцагства, а з 1821 г. — міністрам фінансаў Каралеўства Польскага. З 1834 па 1837 г. К. Ф. Друцкі-Любецкі знаходзіўся ў Парыжы, дзе вёў перамовы аб упарадкаванні фінансавых разлікаў паміж Расіяй і Францыяй. Нягледзячы на актыўную палітычную дзейнасць, наяўнасць некалькіх рэзідэнцый (палацы ў Станіслававе, Понемуне, Чарлёне, Луніне), Шчучын быў яму наймілейшы, менавіта тут, у склепе касцёла святой Тэрэзы, фундатарам якога ён быў, Францішак Ксаверый знайшоў апошні спачын.

Пры Ф. К. Друцкім-Любецкім у Шчучыне было разгорнута вялікае будаўніцтва, але новы палац не ўзводзіўся. Пабудаваны потым, ён быў вельмі не падобны да іншых, прытым меў шмат агульнага ў кампазіцыйным рашэнні з палацам Малы Трыянон — прыватнай рэзідэнцыяй французскіх каралёў у Версалі. Міжволі ўспамінаецца парыжскі перыяд дзейнасці Ф. К. Друцкага-Любецкага: гаспадар мог пакінуць свае рэкамендацыі-пажаданні сыну Аляксандру і ўнуку Уладзіславу, якія і пабудавалі новы палац.

У 1939 г. Друцкія-Любецкія пакінулі Шчучын, але гісторыя палаца прадоўжылася. Адна з самых значных старонак — дзейнасць у ім Дома афіцэраў у тыя часы, калі Шчучын гучна зваўся горадам авіятараў. Пасля расфарміравання ваеннай часткі палац паступова згасаў. Аднак заўсёды была надзея, што рана ці позна ён ажыве…

**Алена ЛІСОЎСКАЯ**

Кніжны свет

31 ліпеня 2015 г.

# Спіс літаратуры на лета

Улетку ўсе імкунуцца збегчы са спякотнага горада. Збіраецеся на мора ці на лецішча? Не забудзьцеся ўзяць з сабой пару кніг. Бо няма больш цудоўнага часу для чытання, чым летні адпачынак: сонца, свежае паветра, водар кветак ці шум хваляў… Завітаўшы ў буйныя кнігарні горада, можна даведацца, якія кнігі мінчукі бяруць з сабой на вакацыі, і скласці спіс самай папулярнай літаратуры гэтага лета.

Я завітала ў чатыры сталічныя кнігарні: «Светач» (пр. Пераможцаў, 11), «Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19), «Веды» (вул. Карла Маркса, 36), «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72) і запыталася ў прадаўцоў і таваразнаўцаў, якія кнігі самыя купляныя сярод сусветнай і беларускай літаратуры. Ва ўсіх кнігарнях адказы былі прыкладна аднолькавыя, таму склаліся яны ў агульныя рэйтынгі.




Фота з сайта www.oz.by.

Пачнём з літаратуры сусветнай — гэты спіс атрымаўся даволі стракатым, бо тут можна знайсці і класічныя творы, і белетрыстыку, і ўзоры масавай літаратуры.

## Іосіф Бродскі. Выбранае

Паэзію цяпер не чытаюць, а калі і чытаюць, то набываюць неахвотна, хіба толькі падарункавыя выданні, — амаль адзінадушна адказваюць супрацоўнікі кнігарняў. Выключэнне — Бродскі. Яго набываюць і аматары высокай паэзіі, і дзяўчынкі-школьніцы, якія дазналіся пра творчасць Іосіфа Аляксандравіча з сацыяльных сетак. Словам, творчасць вядомага рускага паэта зрабілася мэйнстрымам.

## Джэк Керуак. «У дарозе»

Твор легендарнага амерыканскага аўтара, які стаў голасам пакалення бітнікаў і за сваё кароткае жыццё напісаў каля 20 кніг паэзіі і прозы. Сусветную вядомасць Керуаку прынёс менавіта раман «У дарозе». Першы рэдактар гэтай кнігі любіў распавядаць, што ніколі ў жыцці не працаваў з такім рукапісам: рулон паперы даўжынёй 147 метраў без ніводнага знака прыпынку. Кніга насамрэч захапляльная, правакацыйная, супярэчлівая, таму факт яе папулярнасці ў мінскіх кнігарнях вельмі цешыць.

## Джон Грын. «Вінаватыя зоркі» і «Папяровыя гарады»

Дзве кнігі для падлеткаў вядомага сучаснага пісьменніка Джона Грына, па словах прадаўцоў і таваразнаўцаў, разлятаюцца як гарачыя піражкі, але чаму — невядома. Сюжэты дастаткова банальныя, мова аўтара таксама не вылучаецца асаблівай выкшталцонасцю. Магчыма, дадатковай рэкламай сталі экранізацыі кніг, але іх таксама цяжка назваць шэдэўрамі сучаснага кінематографа. Пра густы не спрачаюцца, але факт застаецца фактам: кнігі Джона Грына — бестселеры як сусветных, так і мінскіх кнігарняў.

## Барыс Акунін. «Гісторыя расійскай дзяржавы»

Як сцвярджае сам аўтар у анатацыі да гэтай кнігі, ствараў ён яе для тых, хто хацеў бы ведаць гісторыю Расіі лепш, што яго галоўнай мэтай было зрабіць пераказ гісторыі аб'ектыўным і свабодным ад ідэалагічнай сістэмы і захаваць дакладнасць фактаў. Барыс Акунін падкрэслівае: прафесійныя гісторыкі нічога новага ў гэтай кнізе не знойдуць. Асабіста мне цікава, што шукаюць у гэтай кнізе беларускія чытачы. Ведаць гісторыю суседняй краіны — няблага, але пачынаць усё ж такі трэба са сваёй.

## Грэгары Дэвід Робертс. «Шантарам»

Раман аўстралійскага пісьменніка выйшаў у рускамоўным перакладзе не так даўно, але за некалькі гадоў зрабіўся вельмі папулярным, у тым ліку і ў нашай краіне. У аснову кнігі пакладзеныя падзеі з асабістага жыцця аўтара, галоўнае дзеянне сюжэта разгортваецца ў Індыі, у Бамбеі (Мумбаі) у 1980-х гадах. Кніга захапляльная, дынамічная, але разам з тым вельмі кранальная: асноўная сюжэтная лінія перамяжоўваецца з апісаннем асабістых перажыванняў галоўнага героя і філасофскімі разважаннямі. Асобна хочацца адзначыць афарыстычную мову персанажаў. Такім чынам, «Шантарам» станоўча вылучаецца з шэрагу кніг падобнага жанру. Годны выбар.

## Рэй Брэдберы. «Віно з дзьмухаўцоў»

Гэта кніга ўжо даўно стала класікай сусветнай літаратуры. Яна распавядае пра адно лета дванаццацігадовага хлопчыка, якое поўніцца радаснымі і сумнымі, загадкавымі і трывожнымі падзеямі. Чытаючы «Віно з дзьмухаўцоў», успамінаеш дзяцінства, калі кожны дзень надараюцца дзіўныя адкрыцці, калі ты па-сапраўднаму вольны і шчаслівы. Вельмі жыццесцвярджальная кніга і адзін з самых вядомых твораў Рэя Брэдберы, таму нядзіўна, што ён так добра прадаецца.

## Фрэдэрык Бегбедэр. «99 франкаў»

Раман Бегбедэра — вострая, месцамі адкрыта злая сатыра на рэкламны бізнес, якая бязлітасна выкрывае гэты шалёны і поўны скажэнняў свет, дзе кожны сам за сябе. Кніга вельмі правакацыйная і шчырая, бо аўтар напярэдадні публікацыі звольніцца з рэкламнага агенцтва. Прайшло ўжо 15 гадоў, як быў напісаны гэта твор, яшчэ 8 гадоў прамінула з моманту яго экранізацыі, але ён па-ранейшаму з'яўляецца адным з самых папулярных.

## Э. Л. Джэймс. Трылогія «50 адценняў шэрага»

Калі верыць героям фільма «Дагрукацца да нябёсаў», то на небе размаўляюць толькі пра мора. А на зямлі, пэўна, не засталося ніводнага чалавека, які б не чуў пра трылогію «50 адценняў шэрага», асабліва пасля экранізацыі яе першай часткі. Кніга стала сусветным рэкардсменам па хуткасці продажаў, абагнаўшы серыю раманаў пра Гары Потэра. Эратычны раман брытанскай пісьменніцы ў мінскіх кнігарнях прадаецца не так хутка, але таксама даволі папулярны.

## Аляксандра Марыніна. Серыя кніг «Каменская» і іншыя пазасерыйныя кнігі

Кнігі Марынінай вельмі папулярныя, бо адрозніваюцца дастатковай якасцю сярод твораў папулярнага дэтэктыўнага жанру, напрыклад ад серыі кніг Дар'і Данцовай. Кішэнны фармат выдання, мяккая вокладка, даступны кошт — усё гэта спрыяе масаваму попыту на кнігі, патрэбныя, каб прабавіць дарогу ў электрычцы.

## Алег Рой. Серыя «Чужыя сны» (у суаўтарстве з Кацярынай Няволінай)

Алег Рой — аўтар шматлікіх містычных жаночых раманаў, а таксама дзіцячых фантастычных кніг, вучань вышэйзгаданай Аляксандры Марынінай, пакуль яшчэ не пераўзышоў сваю настаўніцу, але таксама дасягнуў поспехаў на ніве масавай літаратуры. Творы тандэму Роя і Няволінай вылучаюцца надзвычайным псіхалагізмам і сентыментальнасцю, што зрабіла іх папулярнымі сярод жаночай аўдыторыі, у тым ліку і беларускай.

## Беларускае

Калі гаварыць пра самыя папулярныя кнігі беларускай літаратуры, то абсалютны лідар продажу — серыя «Мая беларуская кніга», якую выпускае выдавецтва «Папуры». Таваразнаўцы мінскіх кнігарняў проста не могуць нарадавацца такой чытацкай актыўнасці. У "Цэнтральнай кнігарні" з радасцю паведамілі, што першую партыю размялі амаль адразу ж, ад другой таксама ўжо засталася палова. Цікава, што папулярных аўтараў, такіх як Быкаў і Караткевіч, бяруць менш ахвотна. «Наеліся ўжо імі», — тлумачаць прадаўцы. А вось кнігі аўтараў, якія даўно не выдаваліся, разыходзяцца вельмі хутка: напрыклад, «Зельманцы» Майсея Кульбака ці «Лабірынты» Ластоўскага. Актыўна набываюць «Палескіх рабінзонаў» Янкі Маўра, а таксама зборнік казак, легенд і паданняў «Сіняя світа». Супрацоўнікі кнігарні тлумачаць, што даўно не ставала менавіта такога фармату беларускіх кніг — невялікіх, у мяккай вокладцы, недарагіх, бо часта нашу літаратуру не чытаюць не праз адсутнасць цікавасці, а з-за вялікага кошту выданняў. Папулярнасць серыі «Мая беларуская кніга» — таму пацвярджэнне.

Варта адначыць, што вельмі добра прадаюцца перакладныя творы сусветнай класікі на беларускую мову, напрыклад «Прыгоды Шэрлака Холмса» Конан Дойля ці «Прыгоды Рабінзона Круза» Даніэля Дэфо. Таксама лідар продажу сярод беларускай літаратуры — безцэнзурныя выданні Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» і «Ліквідацыя».

Такім чынам, заўважаецца прыемная тэндэнцыя, што па-беларуску чытаюць больш класічныя творы, а па-руску — масавую літаратуру. Хацелася б яшчэ, каб продажы беларускіх выдавецтваў былі вышэйшымі, бо шмат сапраўды вартых кніг дагэтуль чакаюць свайго чытача. Зрабіце сабе падарунак — схадзіце ў кнігарню, магчыма, гэта зробіць ваш летні адпачынак яшчэ больш прыемным.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**




Фота Дар'і Латышавай.

# Карусель цудаў

**У дзіцячай бібліятэцы павінны быць кнігі на ўсе выпадкі жыцця. Спакойныя і разважлівыя, якія прывіваюць любоў да прыроды, і прыгодніцкія захапляльныя баталіі… Пра адносіны з бацькамі, аднагодкамі, пра з'явы і прадметы навакольнага свету. Дзе ж знайсці настолькі поўны і вычарпальны набор выданняў? У серыі «Вясёлы калейдаскоп» Выдавецкага дома «Звязда»! Памятаеце, у канцы 1990-х дзеці збіралі часопісы «Каламбур» і «Адзін дома»? А чаму б не пачаць збіраць казкі?**

## ШАКАЛАДКІ НА ГРАДКАХ

Знаёмы з дзяцінства страх: мама выключае лямпу, а ты хаваешся пад коўдру, каб начныя істоты не схапілі ў цемры за босую нагу. У іншым выпадку змрок, напрыклад, калі раптам згасае ў доме святло, можна выкарыстоўваць з карысцю: каб сцягнуць усе цукеркі са стала, пакуль бабуля не бачыць. У кнізе вершаў Віктара Ляскоўскага «Зялёная шапачка» малыя надзвычай вынаходлівыя: бяруць з сабой у ложак ліхтарык на ўсялякі выпадак, называюць дзьмухаўцы вяснушкамі на носе лесу і просяць бацькоў купіць ім брацiка ці сястрычку.




Перажыванні дзяцей, іх пачуцці ў спазнаванні свету, адносіны з бацькамі — усё гэта тонка, шчыра і праўдзіва апісана аўтарам. У некаторых вершах адчуваецца гумар, які не саступае па сваёй вастрыні «Шкодным парадам» Рыгора Осцера. «Сдайте сына в магазин — / Ну зачем вам скверный сын?» — усклікае хлопчык, які намачыў новыя штаны ў лужыне. А ў творы «Если б я был агроном» малы шчыра дзеліцца сваімі смачнымі марамі: «У меня на грядке / Росли бы шоколадки. / Козинаки в плитках / Цвели бы у калитки. / Там, где зреют огурцы, / Посадил бы леденцы, / А в теплице — жвачку. / Удобренье для нее / Я возил бы в тачке». Іншы няўрымслівец скардзіцца, што яму ўвесь час не шанцуе: то кампот перакуліцца сам сабою, то шпалеры падзяруцца, то ровар трапіць у кювет. Чытаючы, дзеці разумеюць, што маленькія паўсядзённыя здарэнні, якія выклікалі ў іх крыўду і слёзы, — на самай справе смешныя дробязі. Віктар Ляскоўскі шмат распавядае пра жывёл, не забываючы надаць ім незвычайнае аблічча: ягуар лётае на паветраным шары, кіт карыстаецца компасам, а муха апранае матроску.

Казачным персанажам у кнізе — асаблівае месца. Класічная Чырвоная Шапачка прымярае зялёны ўбор, каб стаць незаўважнай для ваўка, гномік жыве ў горадзе пад назвай Смятана, а парасоны-інтэлігенты вядуць свецкія гутаркі пад восеньскім дажджом. Уся гэтая пышнасць метафар, удалых вобразаў і яркіх прыгод дапаўняецца малюнкамі... не, не масцітых мастакоў, а саміх дзяцей, навучэнцаў Мінскай дзяржаўнай гімназіі — каледжа мастацтваў. На дзіва гарманічна ўплятаюцца яны ў канву твораў — пашыраюць тэкставую прастору, напаўняюць яе гукамі і фарбамі.

## ЛЯМПАЧКІ НА ДРЭВАХ

Пасярод вялікага лесу разгортваецца дзеянне кнігі Яраніма Лаўцюса з паэтычнай назвай «Как ветер зажигает огни». Тым не менш ніякіх рыфмаў і лірычных рытмаў тут няма. Галоўнае — даць дзецям канкрэтныя веды, а не проста навучыць прыгожа прамаўляць. Пісьменнік знаёміць малых з такой з'явай, як электраэнергія, распавядае пра тое, чаму ў дамах гарыць святло і як яго можна здабываць.

Дзеці знаёмяцца з працавітымі бабрамі, даведваюцца, як з вады, ветру і сонца атрымліваюць энергію, захоўваючы чысціню прыроды і здароўе. У кнізе літоўскага пісьменніка ўсе героі дапамагаюць адзін аднаму: заяц прыдумляе для чарапахі транспарт, каб яна хутчэй дабралася да роднага мора, мядзведзь прыносіць леснікам альтэрнатыўнае паліва — салому і галлё, каб тыя не губілі дрэвы, а бабры ўкручваюць у вавёрчыным дупле лямпачку.

Дзеці разумеюць важнасць дружбы, увагі да навакольнага свету і справядлівасці ў ім. Прычым разуменне прыходзіць на канкрэтных, хоць і казачных, узорах. Чытаючы кнігу дзецям, лепш падмацоўваць словы дзеяннямі: напрыклад, зладзіць для іх сапраўдны пікнік у лесе са зборам грыбоў і ягад, казкамі ля вогнішча, юшкай і духмянай малінавай гарбатай. Хай яны самі паспрабуюць скласці гісторыю пра лясных жыхароў!

## КЛЯНОВЫ КРОС

Спартыўныя баталіі — у цэнтры ўвагі кнігі «Три медали, или Кто поедет на олимпиаду?» Віктара Ляскоўскага. Вядома, у кніжным спаборніцтве перамагае дружба, але не абыходзіцца і без выкрыцця хвальбы, задзірлівасці і эгаізму. Як ніколі актуальная тэма здаровага ладу жыцця зноў трапляе ў лясныя дэкарацыі (адны з самых упадабаных у пісьменнікаў).

Строгім суддзёй падчас кросу па зялёных сцяжынках і балотных мясцінах выступае мядзведзь, а заваёўнікамі алімпійскіх вяршынь — уся звярыная сябрына ад сціплай вавёрачкі да грацыёзнага аленя. Шэры воўк зноў у сваім рэпертуары: псуе казачную «карцінку». Але ў выніку застаецца з носам.

Нават калі ў жыцці ўсё не так справядліва, дзецям трэба верыць у тое, што добрыя ўчынкі заўжды правільныя. Выхаванне становіцца эфектыўней у сотні разоў, калі ў арсенале бацькоў мудрая кніга, ды яшчэ і з выдатнымі ілюстрацыямі, якія, між іншым, могуць замяніць вечар перад тэлевізарам ці камп'ютарам.

## СМЕЛЫ ВІТРАЖ І ЛЫЖКА ГРАФІНІ

Прадметы ажываюць у кнізе Вікторыі Сянкевіч «Цікаўная вустрыца». Сюжэты маленькіх




апавяданняў выглядаюць надзвычай арыгінальна на фоне стандартных аповедаў пра баязлівых зайцоў, хітрых лісіц альбо гордых прынцэс і бясстрашных каралевічаў. Аўтар здолела не проста знайсці чароўнае ў штодзённым асяроддзі, але і пераканаць у яго існаванні нават дарослых! Чытаючы, думаеш: можа, ручка, якой я пішу, на самай справе чытае мае думкі, а старэнькі чахол для тэлефона думае пра тое, якая ж сумная, але неабходная яго праца?

У Вікторыі Сянкевіч, вядома, больш удалыя вобразы: гэта і юны ліст паперы, які згубіўся ў альбоме сярод безаблічных белых «таварышаў», і кляновае семечка, маленькі «верталёцік» без аднаго крыла, і падшклянак у цягніку, які памірыў закаханых. Апавяданні, што ўвайшлі ў кнігу, можна аднесці да мініяцюр, замалёвак, а потым без ваганняў уключыць у зборнік больш дарослай прозы.

«В его жизни мелькали иногда обрывки разговоров, звенел граненый стакан, теплом черного казенного чая грея бок, да плевалась недовольно мыльная губка», — зусім не па-дзіцячаму разважае той самы падшклянак. У кожным маленькім апавяданні схавана важная часцінка жыццёвай мудрасці, якая абавязкова спатрэбіцца юным чытачам у іх вялікай будучыні. Матылёк, які жыве тры дні, напрыклад, сімвалізуе працавітасць. Уяўляеце, за гэты кароткі тэрмін ён паспявае апыліць сотні кветак, выратаваць сябров ад сачка шкоднага хлапчука і пачаставаць іх нектарам... А што паспяваем мы?

Іншы сюжэт: старадаўні вітраж, натхнёны мяккім пырханнем крылаў пугача, які прылятае да яго кожную ноч, ратуе свайго куміра з рук паляўнічых, ахвяруючы сабой, рассыпаўшыся каляровымі асколкамі... А птушка лічыць, што збаўца яе ледзь не забіў. Гэтая гісторыя, хутчэй, пра наіў і самаахвярнасць, але таксама моцна чапляе.

Важнасць талісманаў і пераемнасць пакаленняў фігуруюць у аповедзе пра срэбную лыжачку, якая, забытая, ляжыць на шафе. Гэтая сталовая «дама» калісьці ззяла на балях з графіняй, была далучана да свету, а зараз старэе сярод камякоў пылу. Плынь успамінаў — перад вачыма, як фільм: ад моманту, калі мышы пацягнулі яе ў цемру, да таго, як першай дакранулася да вясельнага торту сваёй гаспадыні... А потым трапіла ў рукі яе дачкі. Кранальна да немагчымасці. Назва кнігі «Цікаўная вустрыца» падабрана вельмі ўдала — нядрэннае вызначэнне для маленькіх чамучак. З вустрыцы, дарэчы, вырастае перліна. Так і з дзіцяці, які чытае мудрую літаратуру, з большай верагоднасцю вырасце добры чалавек.

## ГІМН МАМЕ

Чарговая кніга дзіцячых вершаў, якой бы разнастайнай яна ні здавалася, прысвечана аднаму — любові дзіцяці да мамы. Гэта — «Самая родная» Яніны Жабко. Простыя, надзвычай лёгкія, немудрагелістыя рыфмы пасуюць для тых, хто зусім нядаўна стаў далучацца да друкаванага слова. Дзеці пераймаюць мадэлі паводзінаў да пэўнага ўзросту, так што не згубіце момант. Тады з іх вырастуць паслухмяныя і гаспадарлівыя паненкі, а таксама ўважлівыя і клапатлівыя юнакі. «Я — мамина дочка. / Зовут меня — Настя. / Мне мама сказала, / Что я — ее счастье», — гэтыя радкі можна смела ставіць у эпіграф. Відавочнае пазітыўнае адценне маюць усе творы: слова «сонейка» паўтараецца амаль у кожным сказе. «Что мне делать, чтобы мама / Меньше огорчалась? / Что мне делать, чтобы мама / Чаще улыбалась?» — кожнае дзіця задаецца такім пытаннем. У кнізе знойдзецца адказ. Часцей радаваць самага блізкага чалавека не складана, хай нават у дробязях, — посуд памыць, у краму збегаць, прыбраць раскіданыя лялькі і машынкі. Кніга навучыць хлопчыкаў і дзяўчынак працавітасці і дабрыні.

## ВОСЕНЬСКІ КУФЭРАК

Вытанчаны пейзаж малюе кніга «Чараўніца Восень і Сцяжынка падарожніца» Анатоля Бутэвіча. Асаблівую ўвагу аўтар надаў у сваіх творах апісанням прыроды. Маляўніча распавёў пра супярэчлівыя настроі надвор'я, адлюстраваў вечную барацьбу цяпла з холадам.

Клапатлівая красуня, шматколерная чараўніца, муза паэтаў, натхняльніца сялян, храбрая змагарка — як толькі не кажа пра жоўта-чырвоную пару года пісьменнік! «Кудзелістыя пасмы туману між дрэў сцелюцца. Быццам малако ў лесе разлілося. Ветравыя гуслі-самагуды забаўляюць ацішэлы лес», — цешаць слых метафары.

Каштоўнасць казак у тым, што яны пакідаюць на чытанні ўстойлівае адчуванне: цуды побач. Мы бачым, як бог холаду Зюзя збірае сваіх верных служак у густым лясным гушчары, а Мароз Чырвоны Нос распушвае белую бараду, трасе заінелым валоссем і ўцякае па сыпкім снезе босы. Небывалымі, але вельмі блізкімі падаюцца неабсяжныя прасторы Снежнага каралеўства з дзівосным замкам на небе, дзе празрыстыя сцены пад месяцам пераліваюцца каштоўнымі дыяментамі. Ці не так выглядае наваколле, калі выйсці ў парк зімовым вечарам?

Сняжынкі Пушынкі і Ледзякі Мацакі катаюцца на санках, лепяць снегавікоў. Лічыце, што ўзімку дзіця не выцягнуць з дому, бо яму хочацца цёплых дзён? Як бы не так! А вада з неба адкуль бярэцца? Не можа быць, што малое яшчэ аб гэтым не запыталася. Анатоль Бутэвіч прапануе на гэты выпадак арганізаваць падарожжа ў Водная царства, дзе гаспадарыць Вадалей Вадалеевіч і галоўны царскі захавальнік Дажджавік Старанны.

Назіраць — гэта мастацтва, таму кніга спадабаецца самым цікаўным, актыўным і неабыякавым. Маленькі чытач уявіць сябе той самай сняжынкай-падарожніцай, якая, седзячы на кучаравай хмарцы за кніжкай Максіма Танка, звалілася на восеньскі дол… і адчыніла ў сваіх марах дзверы ў новы свет.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Як ёсць...

**Беларускі экзістэнцыялізм можна характарызаваць праз перафразіроўку вядомага Кундэраўскага наймення рамана «Невыносная лёгкасць быцця». У выпадку з творамі беларускіх пісьменнікаў, у большай ці меншай ступені паслядоўнікаў гэтага кірунку асэнсавання чалавека, — ад Максіма Гарэцкага да Андрэя Федарэнкі — маем у быцця не лёгкасць, а цяжкасць, затое — выносную.**

Праўда, і тут варта зрабіць папраўку «на вецер»: перафразіроўка адбудзецца пры ўмове, што пэўнаму існаванню не надыходзіць *the end*, прычым зусім не *happy*.

Творчасць Анатоля Кудраўца, хіба больш чым каго іншага, якраз з лёгкасцю б абышлася без усялякіх «ізмаў», нават рэалістычнага, — настолькі адэкватна, не раўнуючы як з прымяненнем тэхналогій *5D* (не палічыце за іронію), адлюстроўваецца рэчаіснасць, са стварэннем эфекту прысутнасці. Жыццё як ёсць.

Зборнік выбранай прозы, як можна меркаваць, апошні з падрыхтаваных самім аўтарам, які летась адышоў у вечнасць, прапануе творы рознай тэматыкі, пачынаючы з так званай бытавухі («Мікола вярнуўся»). Але большасць — пра каханне. Самае рознае. Непадобныя людзі, жыцці, дый пачуцці, па сутнасці, розняцца. Аднак у А. Кудраўца абрысы кожнага героя штрых за штрыхам, але без расцягнутасці і лішніх словаспляценняў, поўнацца жыватворнасцю — і вось перад намі знаёмы тып, зразумелы характар.

Яшчэ адной «чырвонай ніткай» праз аповеды ў новай кнізе праходзіць тэма, ды хутчэй і не тэма нават, а — падтэмка смерці, канчатковасці чалавечага існавання. Так, у «Елачцы» пасля шматгадовай адсутнасці вяртаецца ў родную хату ўжо немаладым Мірон Булойчык. Дома сын, які і сам тым часам абзавёўся сям'ёю. Жонка памерла. Мірон убачыў фотаздымак нябожчыцы: «І дрэнна жылі яны, і біліся, было, і сварыліся, і што ні нагаворвалі адно аднаму ў злосці, а ўбачыў яе — сцішаную, добрую, з васковымі маршчыністымі рукамі на грудзях, і падкаціўся камяк пад горла, здушыла грудзі. Якім правым ні лічыць сябе чалавек, якімі высокімі, далёкімі ад зямных клопатаў і трывог ні бываюць яго думкі і справы, сустрэўшыся твар у твар са смерцю, ён раптам адкрывае для сябе, што ўсе, нават самыя высокія і вялікія, думкі і справы — нішто ў параўнанні з чалавекам, да якога прыйшла гэта халодная і незразумелая смерць».

Пачуццё суперажывання выклікаюць усе творы — нейкі больш, нейкі менш. Аднак у апавяданні «Бацька» эмпатыя набывае пранізлівасць. Апісваецца ардынарны для вайны эпізод: ворагі ў хаце зладзілі засаду на партызана-гаспадара, які не мог не прыйсці наведаць сваіх дзяцей. Ён гіне. Следам былі застрэлены і забойцы (бацьку страхаваў таварыш). Аўтар не падае ні ноткі ідэйнасці — за каго быў той ці другі бок. Па вялікім рахунку, вайна таксама не канкрэтызуецца (хоць, канечне, угадваецца), быццам творца імкнуўся спраецыраваць, экстрапаліраваць сітуацыю на тысячы гуманітарных катастроф, якія засталіся ў мінулым і, што самае страшнае, падсцерагаюць чалавека ў будучым. Але пасля прачытання яшчэ доўга ўвушшу стаіць плач асірацелых дзяцей.

Збліжаюцца творы ў кнізе А. Кудраўца яшчэ і стылістыкай. Апавядальная нязмушанасць, магія пісьмовага прамаўлення пры адсутнасці відавочнага памкнення да тэхнічнасці і заезджанай сакавітасці — гэта прыкмета найвышэйшага майстэрства.

Усім сваім талентам творца быццам заклікае: любіце гэтае жыццё, даражыце ім. Пакуль кукуе вашая зязюля.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**




*Кудравец А. Зязюля пракукуе заўтра... : кніга прозы. Мінск: Кнігазбор, 2014. — 272 с.*

# Жыццё – тэатр

Вынесеныя ў загаловак словы У. Шэкспіра ў выпадку з вядомым беларускім дзеячам Сержуком Вітушкам (1965 — 2012) набываюць незвычайны сэнс. Рэч у тым, што з прычыны цяжкай хваробы, якая мучыла чалавека да канца жыцця, ён страціў зрок. Гэта, аднак, не загнала колішняга талакоўца ў кут беспрасветнага існавання. Колькасць і якасць зробленага зусім не стасуецца са станам яго здароўя. Відавочна, С. Вітушка жыў так, як не кожнаму дадзена. Якіх высілкаў гэта каштавала, можна толькі здагадвацца.

Адным з праменьчыкаў, які асвятляў жыццёвы шлях С. Вітушкі, стала творчасць для дзяцей. Яшчэ пры жыцці выйшла кніга «Дзіньдзілінь: пара гуляць у казкі!» (2011), дзе аўтар прапануе цыкл «Казкі — жывыя батлейкі» з трох батлеечных п'ес. Яны характарызуюцца асаблівай разняволенасцю ў разгортванні калізій пры наяўнасці некаторых намінальна знаёмых па фальклорнай батлейцы персанажаў. Другое выданне — цалкам драматургічнае. Яно складаецца з дзвюх частак. Першая мае назву «Тэатр на далонях». Адрасуецца самым маленькім гледачам (пачынаючы з 2-х гадоў) і прызначана не для чытання, а цалкам пастановачная. Каментуючы, аўтар адзначаў, што артыстамі ў гэтым тэатры будуць пальцы. «Яны збіраюцца ў шчопці, жменькі, кулачкі і паказваюць розныя фігуры. Што вельмі важна — гэткі тэатр заўсёды пад рукой: у дарозе, калі няма цацак, ці дома, калі цацкі надакучылі». Не забыў казачнік і пра музычнае ды вершаванае суправаджэнне, у ходзе якога адбываецца дзейства — бясхітраснае, але адэкватнае для «пачаткоўцаў» тэатра.

Другая частка разлічана на дзетак узросту дзіцячага садка, называецца «Піраміды» і ўключае п'есы па матывах беларускіх, рускіх і англійскіх казак — вядомых нашаму чытачу добра і не надта. Вітушкавы інтэрпрэтацыі характарызуюцца, па-першае, творчай разняволенасцю, а па-другое, гарманічнасцю ў развіцці дзеяння. Да таго ж аўтар дэманструе добры прыклад для іншых — як можна гуляць у мастацтва з дзецьмі, разам з тым абуджаючы ў іх творчую жылку. Казачнік па-майстэрску вытрымліваючы патрэбныя для эстэтыкі і выхаваўчых імкненняў прапорцыі, разбаўляе ўзяты матэрыял з фальклору аўтарскім і робіць гэта ў аднаму яму вядомых прапорцыях. Аднак у тым, што С. Вітушка не прэтэндуе на мастацкую аўтэнтычнасць сваіх твораў (хоць некаторыя з іх даволі арыгінальныя), бачыцца якраз падштурхоўванне іншых да падобнай драматургіі — неабавязкова ў пісьмовай форме, а, скажам, у вусным аповедзе на сон сваім дзецям. Тым не менш драматург не забывае і пра магчымасць паставіць п'есы, дапамагае адпаведнымі падказкамі і рэмаркамі.




*Тэатр Сержука Вітушкі. Уклад. Л. Сагановіч. Мінск: Тэхналогія, 2014. — 99 с.*

Усе п'есы дынамічныя. Між тым дасягаецца такі эфект за кошт руху персанажаў, нярэдка «ланцужковай рэакцыі» ў разгортванні сюжэту («Верабей і сцяблінка», «Бай і Будзік»). Практычна адсутнічае паўнавартаснае для законаў драматургіі характарастварэнне. Аднак абраны падыход верны: з улікам слабай абазнанасці дашкольнікаў у псіхалогіі, няхай сабе і мастацкай, на першы план выступае так званы экшн і абумоўлівае магістральную рысу характару таго ці іншага персанажа (а не наадварот, як мы да таго прывыклі).

Ёсць у творах і мараль. Недзе больш выразная, недзе менш, калі п'еса хутчэй гуллівая. Часам аўтару ўдаецца сентэнцыйнасць і забаўляльнасць «сплавіць» у адно цэлае — як у п'есе «Бабка і кракадзіл», калі галоўная гераіня праглынула муху, павука, вераб'я, ката, сабаку, але сама апынулася ў чэраве кракадзіла.

Сюжэты не былі б такімі «смачнымі» без вершаў і песень (С. Вітушка ці не да кожнай і матыў падказвае!). Найчасцей гэта куплеты, прыдуманыя самім аўтарам на шырокавядомыя мелодыі. Так, напрыклад, завяршаецца апошняя п'еса (словы пакладзены на музыку «Песні сяброў» з «Брэменскіх музыкаў»):

*І сваю свабоду абаронім,*
*Мы збяром на ворага пагоню,*
*Нас нішто на свеце не стрымае,*
*Разам мы вяліку сілу маем.*

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

*Людзі і лёсы*

# Той яшчэ Іван Кірэйчык

Нялёгкім было дзяцінства ў будучага пісьменніка і журналіста Івана Кірэйчыка, які нарадзіўся на Ганцаўшчыне ў вёсцы Гута. Яго бацька, Аляксандр Цімафеевіч, загінуў на фронце ў 1945-м. Маці адна выхоўвала дзяцей, імкнучыся, каб яны атрымалі ўсё самае лепшае.

Скончыўшы Гуцянскую сярэднюю школу, юнак спачатку працаваў у мясцовым калгасе «Праўда», але нядоўга: прызвалі ў армію. Чатыры гады адслужыў на Балтыйскім флоце. Менавіта тут і паспрабаваў складаць вершы. Першыя творы былі надрукаваны ў флоцкай газеце «Страж Балтии», а потым — у калектыўным зборніку «Песня, рождённая морем».

Пасля дэмабілізацыі Іван вярнуўся ў родную вёску, зноў працаваў у калгасе, актыўна друкаваўся. Таленавітага аўтара заўважылі ды запрасілі працаваць у Ганцавіцкую раённую газету «Сялянская праўда». Малады журналіст спалучаў творчую працу з завочнай вучобай на аддзяленні журналістыкі філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Пасля пераезду ў Гомель Іван Аляксандравіч працуе ў абласной газеце «Гомельская праўда» і на мясцовым тэлебачанні. Менавіта тут адзін за адным пабачылі свет зборнікі нарысаў і апавяданняў: «Багацце душы — людзям», «Пялёсткавы бераг», «Каласам хіліцца долу». А ў 1984 годзе выходзіць зборнік «Калінавая квецень». У літаратурным запісе выйшлі кнігі былых партызан Р. Лазабеева і М. Качана «Лясныя пабрацімы» і «Апалены ранак».

Па ўспамінах жонкі, Веры Фёдараўны, да Івана Аляксандравіча заўсёды прыходзілі пачаткоўцы па дапамогу і падтрымку. І ён ніколі не адмаўляў, заўсёды намагаўся паспрыяць. Старанна рэдагаваў нясмелыя паэтычныя радкі, не скупіўся на змястоўныя парады. А як радаваўся ён, калі гэтыя вершы альбо проза былі дзесьці надрукаваны!

Іван Кірэйчык быў шчырым і добразычлівым чалавекам. У яго гонар названа вуліца ў роднай вёсцы. А там, дзе калісьці стаяла бацькоўская хата, усталяваны памятны знак.

**Ганна АТРОШЧАНКА**

*З пошты «ЛіМа»*

# Пра калегу

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Галіна Бабарыка жыве на Століншчыне і настаўнічае ў малодшых класах Мачульскай базавай школы. У 2004 г. выдала паэтычны зборнік «Давер». Мае вышэйшую катэгорыю выкладання, піша прозу (апавяданні, нарысы, водгукі, гумарэскі) і вершы, у тым ліку і для дзетак, якіх забаўляе яшчэ і ўласнымі казкамі, загадкамі, байкамі, прымаўкамі (думаю, іх назбіралася ўжо на цэлы зборнік), кіруе літаратурным аб'яднаннем «Мастацкае слова» ад Столінскага раённага цэнтра дзіцячай творчасці. Акрамя таго, праз яе вёску Мачуль, якой летась споўнілася 500 гадоў, пралягае адзін з дзесяці турыстычных маршрутаў, распрацаваных Столінскім раённым фізкультурна-спартыўным клубам. Настаўніца прымае ў школе гасцей, ладзіць патрыятычна-выхаваўчыя сустрэчы з вучнямі іншых школ.

Падчас такіх сустрэч Галіна Бабарыка чытае ўласныя вершы пра родныя мясціны, з якіх слухачы даведваюцца пра гісторыю ўзнікнення вёскі, рачулку Моўству, каля якой прытулілася паселішча. З задавальненнем дзеці слухаюць і кароткія гумарыстычныя апавяданні з жыцця вяскоўцаў, ды і пытанні актыўна задаюць.

**Надзея ПАРЧУК**

# Сакрэт прафесара Арловай

**Сёння модна вучыцца, але быць чыімсьці вучнем — не асабліва. Зрабі сябе сам. Знайдзі сваё месца ў свеце. А я ганаруся, што вучылася і вучуся ў Таццяны Дзмітрыеўны Арловай. Я прамаўляла гэтыя словы безліч разоў. Часцей як пароль, сведчанне таго, што я ў тэме. Рэакцыя субяседніка заўсёды адна і тая ж. Выказаная ці не выказаная, але адчувальная ў любым разе: «У Арловай? Ну тады з вамі можна мець справу». Але тут і цяпер я маю вельмі радасную нагоду сказаць пра свайго настаўніка — вядомы тэатральны крытык і журналіст Таццяна Арлова святкуе юбілей.**



Фота Тамары Хаміцэвіч.

Я — часцінка вялікай супольнасці людзей, паяднаных Таццянай Дзмітрыеўнай. Прафесар Арлова працуе на журфаку больш як сорак гадоў. За гэты час ёй была створана ўласная школа, якая аб'ядноўвае выпускнікоў агульным разуменнем прыроды тэатральнага мастацтва, шчырай зацікаўленасцю ім, спагадлівым стаўленнем да яго імклівых змен. Безліч прафесіяналаў сваёй справы, якія пачыналі творчы шлях на парах прафесара Арловай, сёння плённа працуюць у беларускіх тэатрах і аддзелах культуры СМІ. Яшчэ больш — у іншых сферах журналістыкі, а часам і зусім далёка ад яе. Нас паяднаў не толькі тэатр, але і стаўленне да жыцця, якое сваім уласным прыкладам выхоўвала Таццяна Дзмітрыеўна.

Яна заўсёды абуджала ў студэнтах шчырую цікавасць да жыцця ва ўсіх яго праявах. Журналіст мусіць быць цікаўным. Чалавек мусіць быць цікаўным. Таццяну Арлову можна сустрэць не толькі на тэатральных прэм'ерах. Студэнты і калегі з усмешкай (часам разгубленай ад нечаканасці) вітаюць яе на самых адметных паказах кінафестывалю «Лістапад», канцэртах кабарэ-бэнду «Серебряная свадьба», слынных Ночы культур у Вільнюсе… Памятаю, як прыслухоўвалася і здзіўлялася на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, дзе працуе Таццяна Дзмітрыеўна: з якім веданнем сельскагаспадарчай справы яна разбірае практыку студэнткі ў газеце «Беларуская ніва» — надоі, укосы, уборка збожжа. Памятаю неабыякавасць, з якой яна тэлефанавала ў адно са спартыўных выданняў краіны, каб пакрытыкаваць загаловак свайго выпускніка. Але ж і поспехі вучняў ды калег ніколі не застаюцца па-за ўвагай Таццяны Дзмітрыеўны, шчодрай на справядлівую пахвалу. І аўтарытэт яе, і ў журналістыцы, і ў тэатральным мастацтве, бясспрэчны. Але да ўласных поспехаў і дасягненняў прафесар Арлова ставіцца досыць сціпла.

Жыццё зводзіла і зводзіць яе з вядомымі творцамі. Згадаць хаця б сям'ю. Бацька — Дзмітрый Арлоў — акцёр, рэжысёр, тэатральны педагог, выхаваў безліч вядомых акцёраў, адзін з заснавальнікаў беларускай тэатральнай школы. Муж — Яўген Шабан — акцёр, рэжысёр, драматург. Працоўная біяграфія таксама ўражвае. Чаго варты хаця б такі факт: падчас працы Таццяны Арловай у газеце «Знамя юности» практыку ў яе аддзеле праходзіў… будучы вядомы драматург Аляксандр Вампілаў. Але ніводнае з гэтых сваяцтваў ці знаёмстваў не стала нагодай пахваліцца, падкрэсліць сваю ўнікальнасць.

Як чалавек, захоплены тэатральным мастацтвам, яна асабліва адчувае іншае — імгненнасць і неверагодна хуткае знікненне ўсяго, што не зафіксавана словам. Чалавечы лёс, як спектакль, які знікае адразу пасля заканчэння. І ўвесь свой творчы шлях Таццяна Арлова фіксуе ў словах. У кнігах і артыкулах — навакольны свет, які яе захапляе: пастаноўкі, творчыя парт-рэты, успаміны, цікавыя падзеі. Сёння апроч адвечнай бягучай працы — тэатральных рубрык, універсітэцкіх спраў, — расшыфроўвае ўспаміны сваёй маці, актрысы.

Хронатапічнае адчуванне рэальнасці яна стараецца перадаць усім сваім вучням. Каб памяталі, што свет не замыкаецца выключна на ўласнай асобе, што былі тыя, хто рабіў справу да іх, і будуць тыя, хто прыйдзе пасля. І разам з гэтым адчуваннем уключанасці ў адвечны ланцужок занятых пэўнай справай Таццяна Дзмітрыеўна закладае ў студэнтаў устаноўку: «Цябе навучылі — і ты навучы».

Часы для тэатральнай крытыкі сёння далёка не лепшыя. Але маладыя ўсё-такі не здраджваюць чароўнаму свету мастацтва, далучаюцца часам да гэтай непрыбытковай, цяжкай, няўдзячнай справы. І ў гэтым асабістая заслуга Таццяны Арловай.

Маштаб дзейнасці Таццяны Дзмітрыеўны здзіўляе. Ёй на ўсе хапае часу. Выкладаць ва ўніверсітэце і пісаць кнігі. Укладацца ў суровыя дэдлайны і глядзець прэм'ерныя спектаклі. Быць членам журы прэстыжных міжнародных тэатральных фестываляў і вандраваць у сваё задавальненне. Быць са сваёй сям'ёй і выязджаць на любімае лецішча. Але яна раскрыла свой сакрэт вучням: жыццё, працу і людзей вакол трэба шчыра любіць, і яны адкажуць тым самым.

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

# Тэатр «БуСемаПа»: «Мы вельмі любім цмокаў!»

Прэм'ерны спектакль «Як Бусемапка ўсмешку шукала» эксперыментальнага тэатра «БуСемаПа» адбыўся ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага. Уваход для дарослых і дзяцей — фрукт. Што гэта за тэатр, як нараджаюцца ідэі для спектакляў, распавяла Аляксандра Папейка.

— «БуСемаПа» — спантанны праект, аматарскі тэатр непрафісійнага ўзроўню. Утварыўся ў 2013 годзе, першае выступленне адбылося 21 красавіка на фестывалі «Чамаданія». Назва складаецца з першых літар прозвішчаў удзельнікаў: Ліля Бусарова, Вольга Сямашка, Аляксандра Папейка (гэта я) — «БуСемаПа». Нашым першым спектаклем была гісторыя пра ровар, які марыць навучыцца лётаць, — «Жак і Густаў». Мы ўсе не маем ніякага дачынення да тэатра, акрамя Ганны Волкавай, — яна ўдзельнічала ў аматарскім тэатры «Жывая планета» пад кіраўніцтвам Артура Забалотнікава. Я — журналіст, Вольга Сямашка і Ліля Бусарова — мастакі-керамісты, робяць лялькі для спектакляў. А за музыку ў нас адказваюць Дзяніс Шэлег і Павел Бортнік.



Спектакль «Як Бусемапка ўсмешку шукала» — другі ў нашым рэпертуары, — пра дзяўчынку-гарэзніцу з рудымі валасамі і цмокаў з беларускай міфалогіі. Мы вывучалі літаратуру, шукалі сапраўдныя назвы цмокаў. У беларускай гісторыі яны ўяўлялі свет праз тры пласты: ніз, сярэдзіна, верх — Вогнік, Вадзянік, Лясун (Дабрахвот). Такім чынам, у нас не проста гісторыя, а гісторыя, якая знаёміць з міфалогіяй нашых продкаў, — працягнула аповед Аляксандра Папейка. — А спектакль распавядае пра дзяўчынку Бусемапку, якая разам са сваім сябрам, маленькім цмокам Бо, выправілася на пошукі ўсмешкі для бабулі і дзядулі, трапіла ў госці да Лесуна, Вогніка і Вадзяніка.

**Анастасія МЕЛЕХАВА,**
**фота аўтара**

# Час і кветкі

Выстаўка Наталлі Марчанка «Мой кветкавы каляндар» адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.



*«У гасцях у Рэнэ». 2005 г.*

Наталля Марчанка, як адзначыў на прэзентацыі выстаўкі генеральны дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў, асоба маладога веку, але сталага таленту. Член Беларускага саюза мастакоў, творчага аб'яднання «Верасень». Працы мінскай мастачкі знаходзяцца ў Бабруйскім мастацкім музеі, прыватных зборах і галерэях Германіі, Даніі, Польшчы і ЗША.

Экспазіцыю складаюць 12 твораў у тэхніцы акварэлі і шэсць жывапісных палотнаў, якія мастачка разам з супрацоўнікамі музея адабрала з самых любімых і дарагіх. Кожная праца не толькі перадае пачуцці, эмоцыі аўтара, але і дае прастору для фантазіі наведвальнікаў. Гэта тлумачыцца тым, што ў творчасці Наталля выкарыстоўвае элементы некалькіх стыляў і жанраў, змешваючы іх адзін з адным: імпрэсіянізм, рэалізм, нацюрморт, пейзаж, абстрактныя формы. Таму кожны, гледзячы на карціну, знойдзе бачныя толькі яму прадметы або зможа ўявіць, што хаваецца за размытым фрагментам.

На прэзентацыі прысутнічалі старшыня савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Ніна Мазай, першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Ірына Дрыга, старшыня беларускага саюза кампазітараў Ігар Лучанок, член саюза мастакоў Сяргей Волкаў, арт-крытык Марына Эрэнбург, калегі, сябры, блізкія мастачкі — маці і дачка.

**Анастасія МЕЛЕХАВА**

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

# Васілевіцкі след

Са школы мы ведаем, што класік беларускай літаратуры Іван Навуменка нарадзіўся ў палескім мястэчку Васілевічы, якое ўвайшло ў яго літаратурныя творы пад назвай Бацькавічы. Даследчыкі літаратурнай спадчыны І. Навуменкі падкрэсліваюць аўтабіяграфічны, дзённікавы характар яго навел. У творах ён абапіраецца на падзеі з асабістага жыцця, таму яны служаць каштоўнай краязнаўчай крыніцай. Землякі пісьменніка, чытаючы яго творы, міжволі становяцца даследчыкамі. Падобным чынам з'явіўся і гэты артыкул.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. у Васілевічах і Васілевіцкай воласці былі рэалізаваны інавацыйныя праекты: геадэзічныя вымярэнні, метэаралогія, вывучэнне клімату, меліярацыя, асваенне новых тэхналогій сельскай гаспадаркі. Так пачынаўся васілевіцкі след у навуцы. А яшчэ тут нарадзіліся, вучыліся і працавалі многія пісьменнікі і навукоўцы.

На сучаснай карце Васілевічы — горад у Рэчыцкім раёне Гомельскай вобласці з насельніцтвам 3900 чалавек. У мінулыя часы тут адбылося шмат цікавых падзей. У XIX ст. Расійскі царскі ўрад распачаў геадэзічныя вымярэнні для складання тапаграфічных карт мясцовасці, без якіх, як засведчыла вайна з Напалеонам, цяжка ажыццяўляць вайсковыя аперацыі. Дакладнасць карт забяспечвае наяўнасць астранома-геадэзічнай сеткі для абазначэння геаграфічных каардынат. У ліку пачатковых работ па стварэнні геадэзічнай сеткі было вымярэнне дугі мерыдыяна 25°20´ усходняй даўгаты пад кіраўніцтвам рускага геадэзіста Васіля Струвэ.

Працяг гэтай работы — праект па вымярэнні дугі паралелі 52° паўночнай шырыні на тэрыторыі Расійскай імперыі ад Польшчы да Урала. На гэтай паралелі вызначаны кропкі ад Чанстахова і Варшавы праз Бабруйск да Орска на Урале. Васілевічы ўвайшлі ў гэты ланцужок, бо маюць шыротныя каардынаты 52°16´. Работамі з 1863 г. кіраваў расійскі ваенны геадэзіст, будучы генерал-лейтэнант Іосіф Жылінскі.

У 1886 г. праз Васілевічы прайшоў участак Палескай чыгункі Лунінец — Гомель, якая мела ваенна-стратэгічнае значэнне, адыгрывала істотную ролю ў экспарце будаўнічага лесу. У Васілевічах пабудавалі чыгуначную станцыю, дэпо, пакгаўз, шпаланасычальны ўчастак, адкрылі лясную школу-тэхнікум. Казённае сяло Васілевічы пачало расці адпаведна зробленым капіталаўкладанням.

Чыгуначная станцыя, бальніца, лясгас і ляспрамгас, лясная школа, метэастанцыя, пошта планаваліся разам з жыллём для персаналу ў выглядзе сядзіб, якія называлі гарадкамі. Кожны гарадок уключаў галоўны будынак (кантору), дом для служачых, гаспадарчыя пабудовы. Будынкі ўзводзілі вялікія, драўляныя; на галоўных вуліцах праклалі драўляныя тратуары, бо лесу хапала, вакол Васілевіч — суцэльная Еўрапейская тайга. Кожны гарадок меў агарод і сад, атуляўся алеямі з паркавых дрэў. Маючы на ўвазе гэтыя сядзібы, І. Навуменка казаў «нашы зялёныя Васілевічы». З 1926 г. Васілевічы — раённы цэнтр Палескай вобласці. Нягледзячы на войны, перапланіроўкі і перабудовы, яшчэ і сёння па зялёных зонах і старых дамах можна вызначыць месцы былых сядзіб.

Вось у такіх Васілевічах Іван Навуменка вырас, перажыў час ваенных выпрабаванняў, зведаў жахі акупацыі, быў арганізатарам і ўдзельнікам камсамольскага падполля, разведчыкам дэсантнай групы, сувязным і байцом партызанскай брыгады. Сюды вярнуўся з фронту. Пасля дэмабілізацыі працаваў карэспандэнтам мазырскай абласной газеты «Бальшавік Палесся».

У томе І «Збора твораў І. Я. Навуменкі ў 10 тамах» змешчаны нарысы гэтых гадоў: “Адраджэнне саўгаса «Ліпаў» (1946), «Так вырасла новая вёска» (1946, пра в. Рудзец), «За трыццаць год» (1947, пра в. Какуевічы). Разам з землякамі перажываў радасць пасляваеннага адраджэння.



*Хата, у якой вырас Іван Навуменка.*

Падзеі маладосці надоўга вызначылі танальнасць яго твораў.

Васілевіцкі след пракладвалі і «хлопцы-равеснікі» пісьменніка. Сярод іх — Уладзімір Навуменка — родны брат Івана Якаўлевіча. Доктар геграфічных навук, заслужаны работнік адукацыі БССР, ён працаваў у Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна дэканам геаграфічнага факультэта, прарэктарам, удзельнічаў у даследаваннях прыроды і гаспадаркі Брэсцкай вобласці.

З нашага мястэчка і Аркадзь Пінчук, карэспандэнт газеты «Красная Звезда», аўтар аповесцей і раманаў, сцэнарыяў да спектакляў і кінакарцін, лаўрэат некалькіх расійскіх літаратурных прэмій, член Саюза пісьменнікаў Расіі. Па яго сцэнарыях на «Беларусьфільме» зняты карціны «Дело для настоящих мужчин», «Потому что люблю».

У 2004 г. А. Пінчук выдаў кнігу ўспамінаў «Белы бусел ляціць». У кнізе адлюстраваны падзеі, якія згадваюцца і ў навелах І. Навуменкі. Яны зналіся як калегі і землякі. Зборніку аповесцей, выдадзенаму ў 2007 г., А. Пінчук даў назву «Смутак белых начэй». Але І. Навуменка яшчэ ў 1980 г. выдаў зборнік «Смутак белых начэй», прысвечаны перажытаму на франтах пад Ленінградам, у Карэліі і Усходняй Сілезіі!

Васіль Галоўка пасля Васілевіцкай сямігодкі перад вайной паехаў у Ленінград на вучобу. Тут яго заспела вайна, блакада. Пасля перамогі ён вяртаецца ў Васілевічы. У 2002 г. выдаў аўтабіяграфічную хроніку «Жыццё было цікавым», у якой з захапленнем расказаў пра Васілевічы, дзе прайшло даваеннае дзяцінства і шчаслівая «пасляваенная вясна аднаўлення».

В. Галоўка піша пра І. Навуменку як пра сябра, успамінае цікавыя эпізоды. Напрыклад, у 1946 г. былы франтавік быў прызначаны старшынёй камітэта па фізкультуры і спорце Васілевіцкага райвыканкама. Аўтар успамінае, як атрымаў дапамогу “даўняга сябра” Івана Навуменкі. Пачуўшы ад Васіля пра валакіту з будаўніцтвам футбольнага стадыёна, Іван скарыстаў сілу мастацкага слова на карысць моладзі, надрукаваўшы едкі фельетон у «Бальшавіку Палесся». Раённым бюракратам нічога не заставалася, як вырашыць пытанне станоўча, і васілевіцкі стадыён быў пабудаваны!

Вучоны-аграрый і адзін з самых вядомых паэтаў г. Суздаля Міхаіл Брэль нарадзіўся непадалёк ад Васілевіч, у в. Златуха. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя К. А. Ціміразева, стаў кандыдатам сельскагаспадарчых навук. У 2010 г. выдаў зборнік «Залатая Дуброва». Нарыс «Народны пісьменнік» прысвяціў І. Навуменку. З надзвычайнай павагай аўтар узгадвае, як той «блаславіў» яго на творчасць, дапамог надрукаваць першы верш у газеце «Бальшавік Палесся».

Адсюль і Уладзімір Верамейчык, які працаваў настаўнікам і дырэктарам школы саўгаса «Ведрыч», што ў прыгарадзе Васілевіч. Вядомы дзякуючы разнастайнай творчай спадчыне: лірыка, проза, публіцыстыка, сатыра.

Малая радзіма Васіля Якавенкі — в. Пажыхар Васілевіцкага раёна. Пісьменнік працаваў у часопісе «Полымя», друкаваўся ў калектыўных зборніках. Аўтар трылогіі «Пакутны век».

З вёскі Шоўкавічы паходзіць пісьменнік, рэдактар дзіцячага часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі.

Нарадзіўся ў Васілевічах і ішоў у навуцы шляхам, падобным да яго старэйшага земляка Івана Навуменкі, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар Сцяпан Лаўшук. Творчыя здабыткі С. Лаўшука робяць гонар аўтару: ён падрыхтаваў поўныя і выверaныя выданні класікаў беларускай літаратуры — Андрэя Макаёнка ў 5 тамах, Кандрата Крапівы ў 6-ці. Цяпер кіруе творчай групай па падрыхтоўцы і выданні збору твораў І. Навуменкі ў 10 тамах.

Уладзімір Белы — вучоны ў галіне оптыкі і лазернай фізікі, сярэднюю школу скончыў у Васілевічах, вышэйшую адукацыю атрымаў на фізфаку Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. Працуючы ў Інстытуце фізікі НАН Беларусі, прайшоў шлях ад малодшага навуковага супрацоўніка да доктара фізіка-матэматычных навук, загадчыка Міжнароднай лабараторыі. З яго ўдзелам створаны больш як 20 інавацыйных метадаў аналізу і прыбораў 6-га пакалення. Выдатныя вынікі навуковай працы Уладзіміра Белага высока ацэнены акадэмічнай супольнасцю: летась яго абралі членам-карэспандэнтам НАН Беларусі.

Кандыдат філалагічных навук, дэкан факультэта славянскай філалогіі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова, Аляксей Лаўшук таксама з васілевіцкага краю. Аўтар-складальнік фальклорнага слоўніка Магілёўшчыны, ён прыкладае шмат намаганняў для збору і вывучэння народнай творчасці.

Васілевічы ганарацца землякамі. А народжаныя ў гэтых мясцінах шануюць сваю малую радзіму!

**Валянціна КАРЭЛІНА**

# Чытаць — модна

Навагрудская раённая бібліятэка праводзіць акцыю «Моладзь ЗА кнігу і чытанне», якая стартавала 1 сакавіка і будзе доўжыцца да канца кастрычніка. Дэвіз акцыі — чытаць — гэта модна, прэстыжна, актуальна. Юнакі і дзяўчаты цікавяцца выданнямі самі і раяць іншым, якую кнігу ўзяць у рукі.

Нядаўна кніжніца рэалізавала фотапраект «Літаратурны персанаж». Наведвальнікі, а гэта ў асноўным моладзь, пераўвасабляліся ў герояў беларускай літаратуры і стварылі каларытныя вобразы пана Быкоўскага і Альжбеты, Бандароўны, Ядвісі і Андрэя Лабановіча, Ганны Чарнушкі, Надзеі Яноўскай, Соф'і Гальшанскай, княгіні Мянжынскай, Якава Палачаніна, Гражыны… Здаецца, сам Адам Міцкевіч з Марыляй завіталі ў Навагрудак. Гэтае перапляценне мінулага і сучаснага не можа не вабіць да кнігі.

**Фаіна МАЛЮЖЭНЕЦ**

# Мужнасць як прыклад

Прэзентацыя кнігі Дзмітрыя Вінаградава «Дастойны золата пагон», прысвечаная афіцэрам Уздзенскай раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз афіцэраў», адбылася ў цэнтральнай раённай бібліятэцы.

Выданне распавядае пра ваенную службу, жыццёвыя каштоўнасці 29 афіцэраў раёна, якія зрабілі дастойны ўнёсак у абарону Радзімы.

Восенню мінулага года старшыня раённай арганізацыі "Беларускага саюза афіцэраў" Яўгеній Уласевіч звярнуўся да пісьменніка з прапановай напісаць кнігу пра людзей, якія прысвяцілі жыццё ваеннай службе. Ідэя спадабалася. Былі цікавыя сустрэчы з будучымі героямі: дома, на працы, разам перабіралі чорна-белыя здымкі ў сямейных альбомах...

— Мы хацелі нагадаць пра тых мужных людзей, якія праходзілі службу ў Афганістане, Германіі, Прыбалтыцы, Манголіі, Венгрыі, на Урале, Паўночным Каўказе, Камчатцы… Каб іх ведалі, каб на іх раўняліся, — адзначыў Дзмітрый Леанідавіч. — Магчыма, хтосьці з моладзі, прачытаўшы кнігу, таксама захоча насіць пагоны.

**Вера ЛУКАШЭВІЧ**

# Паклікаў «Бразгун»

Штогод на другі дзень свята апосталаў Пятра і Паўла побач з вёскай Наркі Чэрыкаўскага раёна праводзіцца абрад «Бразгун» — традыцыя ўшанавання святой іконы Пятра і Паўла і цудатворнай крыніцы, якая б'е на лясной паляне. Абрад занесены ў Дзяржаўны спіс нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Абраз — аброчная ікона вёскі. Мясцовыя жыхары лічаць, што яна аберагае ад усялякіх нягод. Сёлета шмат паломнікаў і гасцей прыехалі памаліцца перад абразам, прайсці пад ім і пажадаць сабе і сваім блізкім здароўя, дабрабыту, набраць вады з гаючай крыніцы. Асвяціць крыніцу прыехаў благачынны Чавускага раёна, настаяцель Свята-Узнясенскага храма, протаіерэй Мікалай Змушко.

Зберагчы нематэрыяльную каштоўнасць жыхарам вёскі дапамагаюць супрацоўнікі аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Чэрыкаўскага раёна і Цэнтралізаванай клубнай сістэмы раёна.

У межах абраду прайшло II раённае свята-конкурс фальклорнай і народнай песні «Са стагоддзя ў стагоддзе», у якім бралі ўдзел выканаўцы з Дрыбінскага, Крычаўскага, Слаўгарадскага, Касцюковіцкага, Краснапольскага і Чэрыкаўскага раёнаў.

**Ганна ТУЗЯНКОВА**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Стрэлы ляцяць на Грунвальд

Дарэчы, сёлетні «Наш Грунвальд» прываблівіў шмат дзяцей: малыя бегалі наўкол, апранутыя ў сапраўдныя шлемы і латы, нароўні з дарослымі ўдзельнічалі ў забавах і гульнях, удала стылізаваных пад сярэднявечча.

Менш маштабныя, чым рэканструкцыя бітвы пад Грунвальдам, але таксама відовішчныя падзеі праходзілі на працягу двух дзён без перапынку — пешыя і конныя паядынкі, масавыя баталіі, турніры збраяносцаў, лучнікаў, алебардыстаў. У фінале кожнага спаборніцтва вызначаўся наймацнейшы воін, а самі бітвы, як і паабяцалі арганізатары, праходзілі па ўсіх канонах сярэднявечнай тактыкі.

Праўда, убачыць усе гэтыя дзеі маглі толькі самыя ўдачлівыя наведвальнікі: калі глядач паспеў прымасціцца паблізу сцэны, то бачыў усё выдатна, а вось ужо на трэцім-чацвёртым шэрагу даводзілася задавольвацца адно звонам зброі.

Вакол месца асноўнага дзеяння, рысталішча, былі стагі сена. Тыя, хто забіраўся на іх, таксама добра бачыў усё з вышыні. Але відавочна, што дзесяці пастаментаў не хапіла для вялікай колькасці гасцей. Лепш бы рысталішча пашырылі (яно было ну вельмі маленькім), памясцілі на ўзвышша, а для гледачоў паставілі лаўкі. Тым больш што прастаяць на санцапёку некалькі гадзін здолелі толькі самыя адважныя.

Баявая атмасфера і выдатны настрой, тым не менш, ахапілі наведвальнікаў. Кожны жадаючы мог патанчыць, набыць сувеніры з дрэва, саломкі, гліны, срэбра, купіць самаробныя свечкі з духмяным алеем, пакаштаваць свежага мёду, убачыць старадаўнія прадстаўленні на хадулях, пакідаць дзіду, навучыцца страляць з арбалета, лука, гіганцкай рагаткі і нават балісты.



Госці з мінулага.

Працавалі манетны атракцыён, фотакропка, прапаноўвалі свае паслугі рунны аракул і майстры па роспісе хной і аквагрымам. Побач з месцамі для свецкіх забаў раскінуўся рыцарскі лагер з белымі шатрамі, дзе воіны адпачывалі, рамантавалі зброю, а дамы гатавалі ежу. Гледачам таксама прапаноўваўся лагер, дакладней, месца для разважання з намётамі.

Завітаўшы ў майстэрні па бортніцтве і дрэваапрацоўцы, можна было праслухаць пазнавальныя лекцыі, у тым ліку аб старадаўніх прынадах у сямейным побыце шляхціцаў і каралёў.

Паўсюдна праходзілі майстар-класы — па гістарычным фехтаванні, рамёствах, у тым ліку ткацтве, кавальскай справе, валянні з воўны, ганчарстве, накладанні ювелірнай эмалі і вырабе драўляных лыжачак.

Праўда, ад звычайных чалавечых патрэб нікуды не падзецца, а вось з ежай на фестывалі апынулася крыху праблематычна. Акрамя чыпсаў, салёных арэшкаў, марожанага і шашлыкоў, якія не кожнаму па кішэні, амаль нічога не было. Не, рэальна было набыць яшчэ шматок каўбасы ці сала і што-небудзь у тым жа духу з народнай кухні. Толькі, гледзячы на велізарныя шэрагі ў шынку, многія адразу паварочвалі да выхаду…

Затое дабірацца да музейнага комплексу без уласнага транспарту было вельмі лёгка і прыемна: на электрычцы да Рудзенска, а там — два крокі ад станцыі, і цябе забірае камфортны бясплатны аўтобус, што ходзіць спраўна і з маленькім інтэрвалам.

У цэлым атрымліваць асалоду ад «Нашага Грунвальда» амаль нішто не перашкаджала. Нават спёка неяк не заўважалася… А ўвечары пачалося іншае жыццё фестывалю. Акрамя чароўнага фаер-шоу, арганізатары здзівілі ўсіх як ніколі насычанай і маштабнай музычнай праграмай. Хэдлайнерам стала знакамітая расійская група «Мельница». Выступілі таксама гурты «Стары Ольса», Fram, Рокаш, Zhich, Адарвірог, Gad Goddeu, Forodwaith ды іншыя. Усяго — 15 фолк-рок-калектываў з Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы. Канцэрт пад назвай «Пір пасля бітвы» доўжыўся цэлых восем гадзін адразу на некалькіх пляцоўках!

«Наш Грунвальд» у 2015 годзе зноў выканаў сваю місію: стаў не проста месцам для адпачынку душы і цела, але і ўдалай спробай кожнага далучыцца да гісторыі свайго краю.

Кожны год арганізатары фестывалю ўдасканальваюць працэс яго правядзення. Спадзяёмся, што ў наступныя гады ўзровень захапляльнасці фэсту будзе толькі расці, а ўмовы для гледачоў стануць настолькі прывабнымі, што аднаго музейнага комплексу будзе мала, каб змясціць усіх, пляцоўка фестывалю пашырыцца, відовішча стане больш эфектным, а два дні на «Нашым Грунвальдзе» правядуць нават самыя занятыя.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**



Бугурты (масавыя баі).

*Сцяжынкамі памяці*

# Доктар з паэтычнай душою

У мяне, дзякуй богу, шмат сяброў. Сярод іх — вядучы анколаг нашай краіны, прэзідэнт Беларускага аддзялення Міжнароднай акадэміі паталогіі, акадэмік Нью-Ёркскай акадэміі навук, былы кіраўнік аддзела Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра анкалогіі і медыцынскай радыялогіі М. М. Аляксандрава, доктар медыцынскіх навук, прафесар Генадзь Мікалаевіч Мураўёў.

Пазнаёміла нас у 1999 годзе, як гэта ні парадаксальна, няшчасце. Урачы выявілі ў мяне рак. Я лёг у Мінскі гарадскі клінічны анкалагічны дыспансер. Не панікаваў — сябры стараліся дапамагчы.

Адзін з маіх сяброў — паэт Навум Гальпяровіч, — даведаўшыся пра хваробу, сказаў, што ведае цудоўнага ўрача-анколага Генадзя Мураўёва і даў яго каардынаты.

Пасля лячэння ў Мінску я паехаў у Бараўляны на аперацыю. Пагрукаў у дзверы пакоя, на якім вісела шыльдачка з надпісам па-беларуску — «Прафесар Генадзь Мікалаевіч Мураўёў». Сустрэў чалавек з вельмі прыветлівым тварам. Ён узяў шкельца з біялагічнай пробай, паглядзеў на яе пад мікраскопам і сказаў:

— Вы наш, — і, прачытаўшы маё прозвішча, дадаў: — А я чытаў вашы творы, малайчына!

І павёў мяне ў клінічнае аддзяленне. Маладая ўрач вельмі ўзрушылася, што пацыента прывёў сам Мураўёў.

Я тады яшчэ не ведаў, што прафесар Мураўёў — не толькі геніяльны доктар, але і спартсмен, падарожнік, паэт і спявак. На працягу лячэння мне вельмі хацелася сустрэцца з гэтым незвычайным чалавекам. Са мной, як і я з ім, ён заўсёды размаўляў па-беларуску, са сваімі супрацоўнікамі таксама, з тымі, хто гаварыў па-руску, па-англійску, па-нямецку — на іх родных мовах.

Пры чарговай сустрэчы прафесар выказаў думку, што патрыятызм чалавека не толькі ў любові да Радзімы і да сваіх продкаў, суродзічаў, але і да роднай мовы. Аднойчы ён прызнаўся, што не толькі піша, размаўляе, але і думае па-беларуску. Менавіта тады пабачыў свет яго слоўнік медыцынскіх тэрмінаў на беларускай мове.

— А на якой мове ў вас гавораць у сям'і? — аднаго разу пацікавіўся я.

— Жонка, сын, дачка ды і я сам часцей за ўсё па-англійску. Такая вось завядзёнка выйшла.

Ледзь не з першага знаёмства Генадзь Мікалаевіч прапанаваў называць адзін аднаго сябрамі.

…Дзіўна, але ўсе мае сябры і проста добра знаёмыя людзі — шчырыя вернікі. Шчыра верыў у Бога і Генадзь Мікалаевіч. Ён расказаў, што касцёл Сымона і Алены, які знаходзіцца на плошчы Незалежнасці, — яго талісман. Прафесар добра памятае, як 25 снежня, гэта значыць на каталіцкае Раство Хрыстова, у 1941 годзе ў акупаваным фашыстамі Мінску бабуля завяла яго хрысціць у гэты касцёл і шчыра малілася, каб Бог даў унуку здароўе і доўгае жыццё.

З кожным годам анкалагічных хворых усё большае, хаця айчынная медыцына дасягнула ў лячэнні вялікіх вышынь. Але, як некалі казаў мой прафесар, самае важнае пры гэтай хваробе — трымацца мужна. Аднойчы Генадзь Мікалаевіч расказаў, як прымаў удзел у лячэнні Канстанціна Сіманава ў Маскоўскай клініцы, пры гэтым паэт-франтавік паводзіў сябе вельмі мужна да самае смерці ў 64 гады.

Вядомы паэт Міхаіл Святлоў, маючы страшны дыягназ, аднойчы прыйшоў у рэдакцыю і сказаў калегам: «Пайшлі піць піва, а рак у мяне ўжо ёсць».

Я таксама вельмі спакойна, нават несур'ёзна стаўлюся да свайго захворвання, якому ўжо больш як шаснаццаць гадоў, а мне ў верасні павінна споўніцца семдзесят пяць.

Перад выпіскай з дыспансера я падараваў прафесару ці то часопіс «Маладосць» з маімі новымі апавяданнямі, ці то апошнюю на той час кнігу «Лістапад на пачатку лета». Генадзь Мікалаевіч тут жа прэзентаваў мне газету «Мужской клуб» за 16 сакавіка 2000 года. Там былі змешчаны яго здымак, інтэрв'ю і верш «Сябрам».

У прадмове да інтэрв'ю журналіст Аляксандр Новікаў, прадстаўляючы чытачам вучонага, назваў яго ўнікальным чалавекам, эрудытам, паэтам і прапанаваў выслоўе, аднойчы сказанае славутым доктарам:

«З майго кабінета дзевяноста дзевяць хворых са ста выходзяць з глыбокай верай у тое, што яны будуць здаровыя».

У кагорце гэтых «вернікаў» апынуўся і я. Праўда, у «ракавым даўгалецці» ёсць і мая заслуга. Як былы медык, я распазнаў гэтую хваробу на першай стадыі… А вось мая жонка не змагла яе адолець, 15 верасня 2012 года Валі не стала.

Дзіўна, у гэты ж дзень памёр і мой сябар паэт Валянцін Лукша. І пахаваны побач з магілкай маёй жонкі ў Калодзішчах. У гэты ж год амаль у той самы час не стала і акадэміка Генадзя Мураўёва і пахаваны ён таксама побач.

Але наша жыццё мае плён, бо жыве родная мова і меншае навокал «сумных абшараў»!

**Іван СТАДОЛЬНІК**

# Прынцэсы, франтавыя лісты і трохі фантастыкі



*Першы эшалон дэмабілізаваных савецкіх воінаў. Ліпень 1945 г.*

Сукенкі, вартыя Марыі-Антуанеты, ваенная фотахроніка і цмокі, якія сышлі са старонак Толкіна, — усё гэта можна пабачыць сярод апошніх экспазіцый Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.

## МАРЫ ІНФАНТЫ

Выстаўка «Ад крыналінаў і турнюраў да мадэрну: гісторыя моды пачатку ХХ стагоддзя» прадстаўляе гледачам вытанчаныя жаночыя сукенкі і дзіцячыя касцюмы з больш чым векавой гісторыяй — сапраўдныя, у адзіным экзэмпляры. Усе яны з'яўляюцца часткай збору Музея гісторыі моды Марыны Івановай (Украіна, Кіеў), чыя калекцыя збіралася на працягу 30 гадоў.

Жаночыя туалеты датуюцца перыядам 1870 — 1940 гадоў, вядомым як Belle Époque, або цудоўная эпоха. Месца іх паходжання — у асноўным еўрапейскія краіны — Англія, Францыя, Чэхія, Бельгія, а таксама Расія і ЗША. Відаць, што папулярным сярод модніц у тыя часы было змешванне стыляў, багацце раскошных і лёгкіх тканін — мусліну і цюлю, шоўку, шыфону і аксаміту. Пераважаюць далікатныя жаноцкія колеры — топленага малака, прыглушанай зеляніны, палявых макаў.

Прадстаўленыя сукенкі прызначаныя для далёкіх падарожжаў і летніх прагулак па ўзбярэжжы, візітаў у оперу і загарадных пікнікоў, урачыстых прыёмаў і верхавой язды. Сустракаюцца вясельныя ўборы, дарожныя касцюмы, бальныя накідкі з расліннымі ўзорамі і жакеты (казакіны) з тонкай воўны. Цікавы экзэмпляр — восеньскі касцюм 1870-га года з мяккага кашаміру, вырабленага з пуху горных коз у Індыі.


*Строі для дамы ва ўзросце. 1902 — 1905 г., ЗША.*

Па гэтай калекцыі можна смела вывучаць гісторыю моды. Каля кожнага ансамбля — таблічка з падрабязным апісаннем убору, яго частак і асаблівасцей крою. Што ж такое, напрыклад, турнюр? Аказваецца, гэта падушачка, якую апраналі ззаду пад сукенку ніжэй таліі для эфекту пышнай S-падобнай фігуры. А ці ведаеце вы, што амальерка — гэта палатняны мяшэчак для дробных манет? У многіх сукенках таліі перацягнутыя гарсэтам, а спадніца максімальна шматслаёвая, у іншых, пачатку ХХ стагоддзя, сілуэт выглядае вальней, адзенне становіцца больш зручным, але грацыёзнасці не губляе. Упрыгожванняў з пацерак, стразаў, банцікаў, шаўковай ніткі, карункаў, жэмчугу ўсюды хапае.

Ганаровае месца на выстаўцы займаюць таксама аксесуары XVIII — XX стагоддзяў з Заходняй Еўропы, Амерыкі, Украіны. Гэта — капялюшыкі, аздобленыя ружовымі ландышамі, пер'ем райскіх птушак, карункавымі стужкамі, доўгія тонкія пальчаткі, парасоны, сумачкі, веера.

Экспазіцыя ўзнаўляе таксама «дзіцячыя пакоі»: за шклом побач са строямі малых прадстаўлены цацкі. Дзіцячыя сукенкі, амаль не адрозныя ад дарослых, — сапраўдная рэдкасць. Раней яны перадаваліся ад старэйшых малодшым, таму як правіла зношваліся да дзірак. Асаблівую цікавасць выклікае французскае паліто нябесна-блакітнага колеру з вышыўкай каляровай ніткай для дзяўчынкі 3 — 5 гадоў 1870 — 1880-х. Калекцыю адзення дапаўняюць стыльныя чорна-белыя фатаграфіі, на якіх можна ўбачыць прадстаўлены старадаўні ўбор непасрэдна на яго ўладальніцы.

## ЛІСТЫ ДА СЫНА, ПАРТРЭТЫ ГЕРОЯЎ І ЖАНОЧЫЯ ЛЁСЫ

Выстаўка «Тры аповеды пра вайну», прымеркаваная да 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, складаецца з некалькіх частак, па кожнай з якіх варта было б напісаць цэлую кнігу.

Першая — «Лісты да Таліка», куды ўвайшлі франтавыя малюнкі Васіля Маркава з 1943 па 1945 гады, адрасаваныя яго маленькаму сыну, які рос без бацькі і толькі пачаў вучыцца чытаць і пісаць. Хто мог ведаць, што вайна вымусіць мужчыну змагацца далёка ад дому, а не чытаць хлопчыку на ноч казкі, бегаць з ім па двары, гуляць у хованкі, разам ездзіць на рыбалку? На малюнках ёсць кароткія мілыя подпісы, такія нязвыклыя на фоне жорсткіх падзей, у якіх апынуліся на той час людзі. У свае лісты да сына бацька ўкладаў усю пяшчоту, любоў, дабрыню, а пісаў іх у хвіліны кароткага адпачынку паміж бясконцымі атакамі, пад грукат снарадаў, пад дажджом з куль. Калекцыя малюнкаў і фотаздымкі перададзены ў музей Генадзем Кавецкім з горада Барысава.


*«Сонейка», 2014 г.*

Другая частка-аповед, «Шляхамі вайны», — унікальныя фотаздымкі ваеннага карэспандэнта ТАСС, заслужанага журналіста Рэспублікі Беларусь Аляксандра Дзітлава перыяду 1941 — 1945 гадоў. Многія з фатаграфій крыху пажаўцелі, але на іх добра бачны эмоцыі байцоў падчас атак, дымавая і вогненная заслона ваенных аперацый, у тым ліку па вызваленні Мінска, жудасная нямецкая тэхніка, адчай і адначасова радасць бежанцаў, якія вяртаюцца дадому… Аляксандр Дзітлаў, лейтэнант і фатограф, працаваў з простым фотаапаратам ФЭД, дзякуючы якому ў нас, нашчадкаў, ёсць красамоўныя сведчанні гісторыі. Здымкі ён друкаваў па начах у бліндажах і зямлянках, негатывы перадаваў у Маскву як мог: кур'ерамі, машынамі, самалётамі… Хадзіў праз лінію фронту да партызан. Падчас вайны цудам застаўся жывы. Ці трэба казаць, што гэтыя чалавек пабачыў шмат? Экспазіцыя «Шляхамі вайны» перададзена ў музей дачкой героя, Вольгай Дзітлавай.

Трэцяя частка выстаўкі, якая атрымала назву «Дзяўчыны Перамогі», складаецца з прадметаў побыту і фотаздымкаў з сямейных архіваў мінчан і фондаў гістарычнага музея. Гэта — аўтарскі праект той жа Вольгі Дзітлавай. Можна пабачыць сапраўды рарытэтныя рэчы — старэнькі грамафон з пласцінкамі, святочную сукенку, якую, здаецца, насілі акурат да вайны, плюшавага мядзведзіка — мабыць, адзіную цацку, што была ў сям'і з дзецьмі ў 1940-я — 1950-я гады, гадзіннік з дрэва, карункавыя сурвэткі, сямейныя фотаздымкі. Гэтыя рэчы захавала для нашчадкаў ураджэнка мінскага прадмесця Лошыца Алена Конаш.

Падчас вайны дзяўчаты Перамогі былі яшчэ маленькімі ці зусім юнымі, дапамагалі матулям, калі бацькі сышлі на фронт… У іх не было дзяцінства. Менавіта яны сустракалі скалечаных вайной герояў, стваралі першыя пасляваенныя сем'і, аднаўлялі гаспадарку, засейвалі палі, гадавалі дзяцей…

## МОНСТРЫ З ПАДСВЯДОМАСЦІ, АБО СВЕТ ФЭНТЭЗІ

Выстаўка беларускага мастака-графіка Аляксея Навіцкага «Падарожжа», якая знайшла месца ў адным з вузкіх калідораў музея, нагадвае лабірынт фаўна. Змрочны фэнтэзійны свет ахутвае гледача. Не, тут няма цудоўных пейзажаў прыдуманага сусвету, але затое багата загадкавых істот.

Нязменным натхненнем аўтара служаць падарожжы — ён убачыў мноства краін і кантынентаў, пазнаёміўся з людзьмі розных традыцый і характараў, а ўражанні, шчодра ўзбагачаныя фантазіяй, адлюстраваў на паперы. Змена ладу жыцця, звыклага рытму і дэкарацый для яго — як імпульс да творчасці. Як бачна, вельмі эфектыўны.

Працы ў большасці маленькага фармату і чорна-белыя, але гледачу ўсё адно даводзіцца на некалькі хвілін застываць на месцы. Сцэны на карцінах хутчэй алегарычныя, чым рэалістычныя. Тут няма прамога выказвання, толькі метафары.

Застылыя ў небе над горадам велізарныя цмокі, армія павукоў, якая сядзіць у засадзе-павуціне — ілюстрацыі да кнігі «Хобіт». Ёсць на карцінах і ваяры ў цяжкіх даспехах. Уражвае ўважлівы падыход мастака да кампазіцыі, павага да самых дробных дэталяў.

Усяго на выстаўцы можна ўбачыць 20 графічных твораў, якія нараджаліся на працягу 25 гадоў: з 1990 па 2015-ты. У экспазіцыі размясціліся таксама згаданыя вышэй ілюстрацыі і карціны ў стылі «комікс».

Зараз Аляксей Навіцкі працуе галоўным чынам у змяшанай тэхніцы, выкарыстоўваючы туш і акварэль, а ў 1990-я аддаваў перавагу традыцыйнай графічнай манеры. Гэтыя працы таксама можна ўбачыць і параўнаць з новымі. У іх — мудрагелістыя арнаменты, нерэальныя істоты, якія нагадваюць монстраў з падсвядомасці, гратэск, выклік, смеласць. Адлюстраваныя матывы могуць здацца залішне вольнымі і кантраснымі, але ўсё ў іх выверана, а таму гарманічна і строга. У ліку такіх твораў — ілюстрацыі да кнігі «Іван Грозны».

Радзіма Аляксея Навіцкага — горад Мінск. Тут ён вырас, але потым разам з сям'ёй пераехаў у Канаду (горад Таронта). Праз 14 гадоў, у канцы 2014-га, для рэалізацыі мастацкіх задум прыехаў у Вільню, а затым ізноў у Мінск. Вяртанне для яго — як падарожжа ў часе, пошук сябе.

Аляксей Навіцкі неаднойчы выстаўляўся ў галерэях краін былога СССР, а таксама ЗША, Канады, Германіі, Даніі. Большасць яго графічных работ знаходзяцца ў прыватных калекцыях.

**Марыя ВОЙЦІК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 30.07.2015 у 11.00

Ум. друк.11 арк. 3,72

Наклад — 2029.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1482 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.